PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 17 (2032) ГОД XL БЕЛАСТОК 23 КРАСАВІКА 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)



*Царква Уваскрэсення Гасподняга ў Бельску-Падляшскім.*

## СВЯТЫ ПАСХАЛЬНЫ АГОНЬ

У чарговы раз Гасподзь даў нам магчымасць адзначаць Яго Слаўнае Уваскрэсенне. Гэтае Свята Свят — Святая Пасха Хрыстова з'яўляецца найбольшым святам і падставай нашай веры. Прыгожа адлюстроўвае гэта кандак: „Хоць Ты ў магілу зышоў, Несмяротны, але пякельную сілу знішчыў і ўваскрос, як Пераможца, Хрысце Божа, і жанчынам-міраносіцам сказаў: „Радуйцеся!", і мір даў апосталам Сваім і памерлым уваскрэсенне падаў".

З гэтага вялікага і святога дня, аж да Узнясення, будзем вітацца словамі „Хрыстос Уваскрос" — „Сапраўды Уваскрос", і несці пасхальную радасць блізкім і незнаёмым. Гэтая пасхальная нявыказаная радасць пачынаецца ўжо ад Вялікай Суботы ў набажэнствах, у якіх адчуваецца надыход Уваскрэсення. З Вялікай Суботай спалучаецца вялікі цуд, які здзяйсняецца штогод у Іерусаліме ў храме Уваскрэсення Гасподняга. У гэтым месцы трэба прыгадаць, што ўсе галоўныя паломніцкія месцы ў Іерусаліме і ва ўсёй Святой Зямлі знаходзяцца пад апекай Праваслаўнай Царквы Іерусалімскага Патрыярхату.

Цуд — гэта з'яўленне Святога Агню ў Магіле Гасподняй. Адбываецца гэта наступным чынам. У царкве загадзя тушаць усе лямпачкі, лампады і свечкі. Іерусалімскі патрыярх уваходзіць у Гасподнюю Магілу ў капліцы Уваскрасенскага Храма і моліцца ў самоце. Чаканне Святога Агню, падчас якога вернікі няспынна голасна паўтараюць „Кірые элейсон — Гасподзе, памілуй" працягвалася ў розных гадах па-рознаму. У нейкі момант Святы Агонь з'яўляецца ў Святой Магіле і самабытна запальвае алійкавую лямпачку на яго краю. Потым патрыярх запальвае 33 свечкі, выходзіць з Гасподняй Магілы і раздае Святы Агонь паломнікам. Адначасна стыхійна разыходзіцца ён па ўсім храме, запальваючы лампады і свечкі. Святы Агонь мае сіняватае адценне, розніца ад натуральнага святла, іскрыцца, аплывае кругом Магілу Гасподнюю, пераскаквае між лампадамі і свячамі. Характэрнай рысай з'яўляецца тое, што Святы Агонь не пячэ, а можна тое праверыць, дакранаючыся да яго рукою ці тварам. Гэта таксама доказ звышнатуральнага паходжання яго. Святы Агонь — сімвал жыватворнай моцы Уваскрэсення Ісуса Хрыста, з'яўляецца толькі падчас праваслаўнай Пасхі і толькі падчас малітвы праваслаўнага патрыярха. Потым ад яго Святы Агонь атрымоўваюць прадстаўнікі іншых канфесій. Спробы атрымаць Святы Агонь неправаслаўнымі епіскапамі кончыліся безвынікова.

Знамянальная падзея здарылася ў 1549 годзе пры турэцкай няволі. Армяне падкупілі законнікаў Святой Зямлі і атрымалі дазвол на ўваход свайго патрыярха ў Гасподнюю Магілу. У храме апынуліся іншыя хрысціяне за выключэннем праваслаўных. Калі з'явіўся Святы Агонь, то ў першую чаргу раскалоў мармуровую калону з правага боку ўваходных дзвярэй, накіраваўся да праваслаўных, якія сталі вонкі перад закрытымі дзвярамі, і запаліў іх свечкі. Астатнія з сорамам мусілі прасіць у іерусалімскага патрыярха Сафронія Святога Агню. Пашкоджаная калона захавалася да сённяшняга дня.

Святы Агонь з'яўляецца штогод на вачах вернікаў і ніхто не здолее аспрэчыць гэты цуд. Прадказанні прарочаць, што не запаліцца ён перад канцом свету.

У мінулым годзе Святы Агонь нечакана і, шматразова з'явіўся ў ліпені і жніўні. Да гэтай пары з'яўляўся ён толькі ў Вялікую Суботу. Сіняе полымя відаць было ў розных месцах Гасподняй Магілы з рана да вечара і ў прысутнасці праваслаўных паломнікаў (галоўным чынам з Грэцыі і Расіі), калі жанчыны былі скромна адзеты і мелі накрыты галовы. Калі ўваходзілі заходнія пілігрымкі, а ў храме не было праваслаўных, Святы Агонь прападаў. Аб гэтым напісала ў лісце манашка з Грабаркі,

*Працяг на стар. 3*

## КУДЫ ІДЗЕ БЕЛАРУСЬ

**Размова са СТАНІСЛАВАМ ШУШКЕВІЧАМ, былым старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

— *Паважаны Станіслаў Станіслававіч, у якім напрамку ідзе Беларусь?*

— Для мяне гэта таксама пытанне. Я ўсё жыццё быў навукоўцам і стараўся кіравацца логікай, а цяпер нічога не разумею. Напрыклад, сённяшні прэзідэнт выступаў супраць рынку, а цяпер, у іншых рэаліях, асабліва ў размовах з Манетарным фондам, заяўляе, што ідзем у бок рынку. Але пра які рынак можам гаварыць, калі ў нас у прыватных руках толькі 5—6% прадпрыемстваў. Ды і гэтыя даныя, зробленыя хіба для патрэб Манетарнага фонду, завышаныя. Мы маем добрае права для свабоднага рынку, толькі ўлада яго не выкарыстоўвае, няма народнай прыватызацыі. Цяпер прыватызуе адна наменклатура і тут жа ўсё праядае.

— *Ці парламенцкія выбары штосьці зменяць?*

— Невядома. Разам з выбарамі прэзідэнт аб'явіў правакацыйны рэферэндум, з якім цяжка змагацца, бо ёсць указ прэзідэнта, які забараняе кандыдатам у Вярхоўны Савет выступаць па цэнтральным тэлебачанні, па радыё, у прэсе. У нас пытанне з мовай і дзяржаўнай сімволікай вырашанае, не вырашанае — з эканомікай. І гэтая прэзідэнцкая каманда эканамічнага пытання не вырашыць, бо не могуць правесці рэформ людзі, якія думаюць, што найлепш, калі заводамі і сельскай гаспадаркай кіруе дзяржава. Прэзідэнт хоча істотныя эканамічныя пытанні замяніць палітычнымі, да таго, надуманымі. Я чуў параўнанні Лукашэнкі да Валэнсы, моў і гэты, і той — папулісты. У акружэнні Валэнсы, усё-такі, адукаваныя людзі, а ў камандзе нашага прэзідэнта — палітрукі.

— *Ці праводзяцца ў Беларусі апытанні грамадскай думкі і ці паводле іх можна меркаваць аб выніках надыходзячых выбараў?*

— Беларусь вельмі разнавідная краіна, паасобныя рэгіёны моцна адрозніваюцца між сабою, таму такія апытанні цяжка праводзіць, трэба многа рэспандэнтаў, анкецёраў і, што за гэтым ідзе, грошай. Ёсць, праўда, установы, якія апошнім часам гэтым займаюцца, але рэзультаты іхніх доследаў хутчэй адпавядаюць спадзяванням заказчыкаў, чымсьці адлюстроўваюць рэчаіснасць.

— *Якія, паводле Вашага меркавання, шанцы на перамогу ў Дэмакратычнага блока?*

— Дэмакратычны блок аб'явілі пяць партый: **Беларускі народны фронт, Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада, Сялянская партыя, Беларуская хрысціянска-дэмакрытычная партыя і Нацыянальна-дэмакратычная партыя.** Але афіцыйна зарэгістраванага блока няма. Ды і цяжка пра яго гаварыць, калі БНФ выставіў сваіх кандыдатаў амаль ва ўсіх 260 выбарчых акругах. Яны, праўда, наймацнейшыя, але што застаецца астатнім кааліцыянтам? БНФ заяўляе, што гэта толькі кандыдаты на кандыдатаў і яны будуць зняты, калі, паводле дамоўленасці, у гэтых акругах будуць балатавацца іншыя прадстаўнікі блока. Хаця мне блізкая БСДГ, але я не ўступаю ў ніякую партыю. Мне па праграме блізкі і БНФ (дарэчы БСДГ выйшла з БНФ) і я буду рады, калі ён пераможа. Толькі там цяпер нездаровая сітуацыя, „вождизм", завялікая дыстанцыя між правадыром і астатнімі членамі кіраўніцтва. БНФ лічыць, што за старыя заслугі яму аўтаматычна належыцца месца на чале. Не ўлічвае вынікаў прэзідэнцкіх выбараў, не ідзе на кампраміс.

— *З чым давядзецца змагацца пасля выбараў?*

— У нас адбываецца трагічнае абядненне некаторых катэгорый грамадства. Хаця мінімальная зарплата і пенсія гарантаваныя, але яны ніжэй пражытачнага мінімума. Людзі ратуюцца дзякуючы натуральнай гаспадарцы, дзякуючы агародам і дачным участкам. А наш прэзідэнт замест шукаць выйсця з гэтага трагічнага становішча, прымяняе чыста гітлераўскую прапаганду. Ніякага абяцання не выпаўняе, а ўсё выназходзіць ворагаў, па тыпу „я не магу нічога зрабіць, бо мне перашкаджае Вярхоўны Савет".

*Працяг на стар. 4*




*Спакойнага і радаснага*
*Велікоднага святкавання ўсім Чытачам*
*жадае рэдакцыя „Нівы"*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Хачу пахваліць прэзідэнта Аляксандра Лукашэнку за тое, што ён наладжвае такія цудоўныя спектаклі. Мяне асабліва ўразіла тая інсцэніроўка, дзе ён выконваў ролю Катані, змагара з мафіяй. Нават і стрэлы прагучалі. То „мафія" рабіла замах на дэпутата Лукашэнку. Хаця мафіёзі засталіся не пакаранымі, але затое які атрымаўся спектакль! Іншым разам выступіў у ролі хірурга і даказаў, што хірург перш павінен мець рукі, а пасля думаць, так як гэта робіць кіраўнік дзяржавы. Аднак апошнім часам Лукашэнка чамусьці перастаў зьяўляцца перад шырокай публікай. Шкада, бо вялікі талент прадстаўляе ў спектаклях, у якіх выступае.*

*(Свабода, н-р 11)*

* * *

*Нацыянальная эліта паўстае разам з нацыяй. На пачатку XX стагоддзя беларускія дзеячы пачалі фармуляваць ідэі існавання беларускага народа ва ўласнай дзяржаве. Інтэлектуалы таго часу — Купала, Луцкевіч, Ластоўскі — выказалі ідэю дзяржаўнасці нацыі, але і ўвасобілі яе ў сакавіку 1918 года, стварыўшы Беларускую Народную Рэспубліку. БНР праіснавала нядоўга, але беларускі нацыянальны рух аказаўся дастаткова моцны, каб не загаснуць і ў эміграцыі, і ў БССР. Свая эліта ў Савецкай Беларусі, хай і пракамуністычная, але выразна нацыянальная і яна праводзіла беларусізацыю рэспублікі. Але гэта працягвалася нядоўга. Так ужо ў 30-я гады людзей пра якіх гаворым, спасціг трагічны лёс. Большасць з іх была знішчана палітычнымі рэпрэсіямі. Ужо на пачатку 30-х гадоў толькі 15% прафесуры Беларускага дзяржаўнага універсітэта складалі беларусы. Астатнія 85% былі знішчаны як беларускія нацыяналісты і зменены выхадцамі з Расіі. Вынішчэнне нацыянальнай эліты стала дзяржаўнай палітыкай. Тая эліта, якая стварала БССР як нацыянальную рэспубліку, была замешчана іншай — не нацыянальнай, а дзяржаўнай савецкай, расейскай, экспартавай.*

*Сёння беларусы складаюць толькі 30% афіцэрскага корпуса краіны. У 1974 г. у групе інтэлігенцыі працэнт рускіх і беларусаў быў роўны — па 50%, хаця рускія складалі 13,2% насельніцтва Беларусі. У канцы 80-х гадоў колькасць кандыдатаў і дактароў навук на 100 000 насельніцтва сярод рускіх у 5—6 разоў перавышала колькасць сярод беларусаў. Так ці інакш, сёння эліта Беларусі і беларуская эліта не тое самае. Цяпер мы збіраем плён панавання тут чужой культуры і чужой эліты.*

*(Наша слова, н-р 11)*

* * *

*Polscy żołnierze rozpoczną od czerwca służbę w watykańskiej gwardii. „Żołnierze ci kultywują chlubne tradycje orła polskiego na przestrzeni dziejów — powiedział Zbigniew Okoński — minister obrony narodowej. Każdy z żołnierzy został pozytywnie zaopiniowany przez biskupa polowego generała Sławoja Leszka Głódzia. Jeden z żołnierzy chętnych do służby w Watykanie odpadł, gdyż nie miał bierzmowania.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 78)*

* * *

*Ponad milion Polaków cierpi na chorobę alkoholową. W ostatnich pięciu latach odnotowano 50-procentowy wzrost spożycia napojów spirytusowych. Znaleźliśmy się w ścisłej czołówce krajów o największym spożyciu alkoholu. Pijemy więcej niż w pierwszej połowie XIX wieku, kiedy cały kraj zalała gorzała. Statystyczny mieszkaniec Polski wypija 11 litrów 100-procentowego alkoholu rocznie, najczęściej w postaci wódki , chociaż często można spotkać panów pijących denaturat, płyn do mycia szyb, czy brzozówkę. Zwiększyło się spożycie alkoholu w środowisku dzieci, młodzieży i bezrobotnych. Można by uznać za nieprawdziwe stwierdzenie, które przylgnęło do minionego systemu, iż władza totalitarna rozpijała Polskę.*

*(Gazeta Współczesna, nr 65)*

Ёсць розныя колеры таталітарызму.

* * *

*Formalnie rzecz biorąc, w Białymstoku rządzi prawicowa koalicja „Jedność", która w czerwcu ubiegłego roku dzięki poparciu księży wygrała wybory samorządowe. Zdecydowaną przewagę w Białostockim Porozumieniu Prawicy zdobyła „Solidarność". Od pewnego czasu wszystkie propozycje a nawet sugestie przewodniczącego „Solidarności" są bez zastrzeżeń zatwierdzane na niejawnych posiedzeniach tego międzypartyjnego organu. Białostockie Porozumienie Prawicy funkcjonuje i podejmuje decyzje niejawnie. Podstawą demokracji jest jawność całego procesu dochodzenia do decyzji w sprawach dotyczących ogółu. Nawet egzekutywy pezetpeerowskie publikowały w „Gazecie Współczesnej" komunikaty ze swych posiedzeń.*

*(Kurier Poranny, nr 78)*

Калісь таварышы вучылі яшчэ, што „дэмакратычны цэнтралізм" — найвышэйшая форма дэмакратыі. Сёння іх салідарніцкія пераймальнікі верна ажыццяўляюць гэтую ідэю.

* * *

*Wszelkie próby pozyskiwania Białorusinów dla polskości napotykały nieodmiennie milczący opór, którego symbolem stało określenie się jako „tutejsi", używane przez Białorusinów chcących zademonstrować swą odrębność bez antagonizowania polskiego rozmówcy. Białorusini jednak z rezygnacją przyjmą każdy wyrok, byle tylko napisany był cyrylicą.*

*(Najwyższy Czas, nr 13)*

Які ж дзіўны народ адкрыў для сябе польскі журналіст.

* * *

*Bogusław Linda za kilkusekundowe zachwalanie w telewizyjnej reklamówce smaku hamgurgerów zainkasował 50 tys. dolarów.*

*(Polityka, nr 13)*

За такую суму можна пераконваць тэлегледачоў, што няма нічога смачнейшага за сала з мёдам.

* * *

*Dla Ameryki Polska ma znaczenie tylko o tyle, o ile jest elementem jej polityki wobec Rosji.*

*(Wprost, nr 15)*

* * *

*W 1919 r. jeden z hierarchów Kościoła unickiego, zaproponował Leninowi oparcie „rewolucji proletariackiej" na katolikach, gdyż prawosławni są zbyt silnie przywiązani do caratu. W tym samym czasie zakony misyjne zaczęły przygotowywać katolicką inwazję na terytoria ZSRR, gdzie po rewolucji struktury cerkiewne można było zastąpić katolickim aparatem kościelnym. Na polecenie papieża Piusa XI w ścisłej tajemnicy wyświęcono katolickich biskupów i ustanowiono ich administratorami apostolskimi na terenie ZSRR.*

*(Wprost, nr 14)*

В политике нет сентиментов. Гэту праўду ў Італіі ведалі ўжо ў старажытнасці.

# З мінулага тыдня

**Прэм'ер-міністр Юзэф Алексы** прыме ўдзел у святкаваннях 50-годдзя заканчэння II сусветнай вайны, якія адбудуцца 9 мая г.г. у Маскве, хаця прэзідэнт РП **Лех Валэнса** не выедзе на замежныя святкаванні, а толькі адзначаць іх будзе ў краіне. Міністр замежных спраў **Уладыслаў Барташэўскі** станоўча паставіўся да намеру прэм'ера ехаць у Маскву. „Трэба ўлічваць празмерную ўразлівасць расейскага боку, які адсутнасць прадстаўніка Польшчы палічыў бы формай дэманстрацыі антыпатыі", — заявіў міністр. Намер прэм'ера Алексага падтрымоўвае таксама лідэр СЛД **Аляксандр Квасьнеўскі**. „Сустрэча такіх людзей як **Клінтан, Коль, Ельцын**, польскі прэм'ер — можа стаць прыкладам, як мае выглядаць Еўропа, свет, бяспека ў будучыні", — сказаў ён.

**Калі б парламенцкія выбары** адбываліся ў пачатку красавіка г.г., найбольш галасоў атрымала б **СЛД (22%)**. Меншую падтрымку выбаршчыкаў мелі б: ПСЛ і Унія вольнасці — па 12%, „Салідарнасць" — 8% і Унія працы — 5%. Да такіх вывадаў дайшоў цэнтр даследавання грамадскай думкі ОБОП пасля апытання 1 059 рэспандэнтаў.

**Яцэк Курань** — адзін з кандыдатаў у прэзідэнты на маючых адбыцца выбарах — быў перавезены з паліклінікі ў Ольштыне ва ўрадавую лячэбніцу ў Варшаве. Падчас знаходжання ў цэнтры адпачынку ў Ланску Я. Курань упаў з ровара і атрымаў пашкоджанне скроневай косці.

**Старшыня беластоцкай Гарадской Рады Ян Хайноўскі** і віцэ-прэзідэнт Беластока **Кшыштоф Юргель** пабывалі з візітам у Калінінградзе. Прадстаўнікі Беластока прынялі ўдзел у святкаваннях 50 гадавіны здабыцця савецкімі войскамі крэпасці Кёнігсберг. Ва ўрачыстасцях удзельнічалі дэлегацыі з Гданьска, Эльбланга і Ольштына, а таксама і з іншых гарадоў Еўропы.

**У Апеляцыйнай пракуратуры ў Беластоку** гасціла дэлегацыя Генеральнай пракуратуры Літвы, якую ўзначальваў намеснік генеральнага пракурора **Артурас Паўляўскас**. Мэтай візіту быў абмен думкамі і заўвагамі наконт мінулагодняга пагаднення аб супрацоўніцтве пракуратур абедзвюх краін.

**Беспрацоўе на беластоцкай вёсцы** будзе пастаянна ўзрастаць, даводзячы да збяднення вёскі, асабліва ў тых раёнах, дзе наглядаецца нізкі ўзровень гаспадарчага развіцця. Да такога вываду дайшлі супрацоўнікі Ваяводскай установы па працаўладкаванню, прааналізаваўшы вынікі сацыялагічных даследаванняў. З даных гэтай установы можна даведацца, што ў канцы студзеня 1995 г. было зарэгістраваных 14 823 беспрацоўных на вёсках (што складае 31,5% агульнай колькасці беспрацоўных). З іх ліку 870 чалавек мелі свае гаспадаркі плошчаю ў 3—7 гектараў. Найбольшую групу беспрацоўных складаюць маладыя людзі ва ўзросце 18—25 і 31—40 гадоў.

**Зменшыўся лік беспрацоўных у Беластоцкім ваяводстве.** У канцы сакавіка было зарэгістраваных 45 350 чалавек, на 2,5% менш, чым год таму. Амаль 43% незанятых не маюць права на дапамогу па беспрацоўю. Станоўчай з'явай трэба палічыць большую колькасць прапаноў работадаўцаў. У сакавіку прапанавалася праца для 1 675 чалавек (на 594 прапаноў больш, чым у лютым). 1 172 асобы знайшлі занятак пры інтэрвенцыйных працах, а 245 — пры публічных работах.

**У Кляшчэлях** завяршыўся конкурс на пасаду дырэктара мясцовага асяродка культуры. З ліку шасці кандыдатаў конкурсная камісія выбрала **Кшыштофа Чарнэцкага** — кіраўніка Дому культуры „Ляснік" у Гайнаўцы. Новы дырэктар праўдападобна стане выконваць свае абавязкі ад 1 мая г.г.

Змяніліся **тэлефонныя коды краін у Беларусь** — з 0-07 на **0-0375** і на **Украіну** — з 0-07 на **0-0380**. Памяняліся таксама коды гарадоў у гэтых краінах. Тэлефануючы ў Менск зараз трэба набіраць 172, у Гродна — 152 і 1522, у Брэст — 162 і 1622, у Магілёў — 222, у Віцебск — 212, 2122. Кошт тэлефонных размоў з гэтымі краінамі не змяніўся.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"





# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Дэпутацкі пратэст

11 красавіка група дэпутатаў ад апазіцыі БНФ абвясціла галадоўку ў знак пратэсту супраць антызаконных і згубных для Беларусі дзеянняў прэзідэнта. Прыгадаем, што дзень раней Вярхоўны Савет, пад націскам прэзідэнта, вызначыў дату рэферэндуму (на 14 мая) і тым самым адобрыў гэтую антыбеларускую ініцыятыву. На наступны дзень народныя дэпутаты па сутнасці дыстансіраваліся ад яго. Толькі за адно з пытанняў — аб эканамічнай інтэграцыі з Расеяй — яны прагаласавалі станоўча (180 галасоў за). Астатнія ж тры — наконт увядзення дзяржаўнасці рускай мовы, змены нацыянальнай сімволікі і права прэзідэнта на роспуск парламента — правалілiся, бо не набралі патрэбнай колькасці галасоў (за іх было пададзена, адпаведна, усяго 124, 150 і 86 галасоў). На такую пазіцыю дэпутатаў несумненна паўплываў неардынарны крок апазіцыі — аб'яўленне а 10 гадзіне галадоўкі ў зале парламента. Пасля заканчэння працоўнага дня сесіі галадаючыя дзевятнаццаць дэпутатаў, у тым ліку З. Пазьняк, Л. Баршчэўскі, В. Малашка. П. Садоўскі, А. Шут, В. Голубеў, С. Навумчык, С. Антончык, Б. Гюнтэр, С. Папкоў, І. Гермянчук, М. Крыжаноўскі, Л. Зданевіч, А. Трусаў, У. Заблоцкі, М. Маркевіч, засталіся ў зале. Дэманстранты патрабавалі выканання Канстытуцыі, законаў РБ, свабоды слова і ліквідацыі цэнзуры. Ужо з вечара міліцыя прабавала вывесці з залы апальных дэпутатаў, паведаміўшы, што атрымалі яны званок аб бомбе ў памяшканнях ВС. Калі галадаючыя не згадзіліся пакінуць залу, глыбокай ноччу 200 амонаўцаў сілай выкінулі іх з будынка парламента.

### Вінаватыя амерыканцы

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка заявіў, што Злучаныя Штаты Амерыкі і НАТО нясуць адказнасць за размяшчэнне баявой тэхнікі на тэрыторыі рэспублікі, бо „яны прымусілі СССР да ўдзелу ў гонцы ўзбраенняў". Лукашэнка гаварыў таксама аб прычынах, якія падштурхнулі яго прыпыніць знішчэнне ўзбраенняў у адпаведнасці з дагаворам аб скарачэнні звычайных узбраенняў у Еўропе і сцвердзіў, што выкананне абавязкаў дагавору зараз эканамічна нявыгаднае для Беларусі. ЗША даюць Беларусі сродкі для дэмантажу ўзбраенняў, але іх недастаткова. Дапамога ў ліквідацыі зброі з боку Расеі таксама мізэрная.

### Візіт старшыні Сената

Маршалак Сената РП Адам Струзік пабываў у Беларусі з афіцыйным візітам і быў прыняты першымі асобамі Беларусі: прэзідэнтам, спікерам парламента, прэм'ер-міністрам і міністрам замежных спраў, а таксама сустрэўся з прадстаўнікамі польскай нацыянальнай меншасці. У справаздачах прэсы аб візіце маршалка Сената РП указвалася, што ў РБ жыве сто тысяч палякаў. У сувязі з гэтым пасольства Польшчы ў Менску паведаміла, што паводле даных апошняга перапісу насельніцтва, праведзенага ў 1989 г., колькасць палякаў грамадзян РБ склала 418 тысяч.

### Перадвыбарчыя прагнозы

— Трэба сур'ёзна рыхтавацца да маючых адбыцца выбараў у Вярхоўны Савет, каб пазбегнуць горкага вопыту Казахстана, дзе парламент быў распушчаны праз год пасля абрання, — заявіў старшыня Вярхоўнага Савета Мячэслаў Грыб. — Новы састаў ВС не будзе абраны ў ходзе першага тура галасавання, які адбудзецца 14 мая. Гэтаму перашкодзіць вялікая колькасць кандыдатаў у дэпутаты, зарэгістраваных у Цэнтральнай выбарчай камісіі. На 260 месцаў у парламенце зараз прэтэндуе звыш 2000 кандыдатаў. Пры такім становішчы галасы выбаршчыкаў будуць проста расцягнуты і нямногія змогуць набраць 50% + 1 голас.

### Антончык аштрафаваны

Суд Ленінскага раёна горада Менска завяршыў разгляд справы паводле іску кіраўніка справамі прэзідэнта Івана Ціцянкова наконт абароны гонару і годнасці да дэпутата ВС Сяргея Антончыка. Суд прызнаў віну Антончыка, палічыўшы, што ён абразіў Ціцянкова ў сваім нашумеўшым антыкарупцыйным дакладзе і абавязаў народнага дэпутата выплаціць кіраўніку справамі прэзідэнта 200 млн. руб. у якасці кампенсацыі за спрычыненую яму маральную шкоду, а таксама выступіць на працягу месяца на чарговай сесіі ВС і папрасіць у яго прабачэння.

### Кожны па-свойму

Група з васемнаццаці юрыстаў пад кіраўніцтвам старшыні Канстытуцыйнага Суда Валерыя Ціхіні распрацавала навукова-прававы каментарый да Канстытуцыі РБ. Аднак гэта неафіцыйнае тлумачэнне канстытуцыі бо падобная функцыя з'яўляецца прэрагатывай Вярхоўнага Савета. Юрысты, палова з якіх — суддзі КС, зрабілі навуковы каментарый таму, што кіраўнікі дзяржавы па-рознаму тлумачаць адны і тыя ж палажэнні Канстытуцыі.

### Забойца хлопчыкаў

Старшым следчым па асабліва важных справах пры Генеральнай Пракуратуры Рэспублікі Беларусь Язэпам Брушлісам закончана папярэдняе следства па справе абвінавачанага ў забойстве светлагорскіх дзяцей. Арыштаванаму амаль год таму 26-гадоваму жыхару Светлагорска прад'яўляецца абвінавачанне ў нападзе і забойстве на працягу 1990—1993 гадоў шасці хлопчыкаў ва ўзросце 9—14 гадоў. Астанкі двух былі знойдзены ў прылягаючым лесе гараджанамі. Яшчэ два месяцы, дзе забойца забіў і закапаў ахвяры, паказаў ён сам.

# З Беластока ў Берасце, з Берасця ў Беласток

3—4 красавіка г.г. у Берасці адбывалася міжнарожная канферэнцыя па праблемах школьніцтва для нацыянальных меншасцей у Еўропе. На канферэнцыю былі запрошаны таксама сябры Беларускага гістарычнага таварыства з Польшчы, якія займаліся гэтымі пытаннямі.

З Беластока ў Берасце можна даехаць непасрэдна аўтобусам фірмы „Бякомекс" або цягнікам. Ведаючы традыцыі працы мытных і пагранічных службаў, Лена Глагоўская, Славамір Іванюк і ніжэйпадпісаны вырашылі ехаць у Беларусь цягніком. Чыгуначны транспарт мае такую перавагу, што больш-менш рэгулярна пастаўляе пасажыраў у назначанае месца.

Амаль пусты цягнік рушыў з Беластока ў напрамку Бельска, Чаромхі. Быў ён аднак нейкі дзіўны. У вагонах, у якіх былі толькі лаўкі, чамусьці ўсе шрубы былі адкручаны, трэсліся разбэштаныя бляхі, вокны не закрываліся, а на падлозе красаваліся высахлыя плямы усялякіх колераў. Можна, аднак, зарызыкаваць і сказаць, што да Чаромхі даехалі мы вагонам трэцяга класа, які найчасцей выкарыстоўваецца ў чыгуначным транспарце на тэрыторыі ўсходняй Беласточчыны. У Чаромсе, не кранаючыся з месца, мы раптам апынуліся ў вагоне тыпу „бізнесклас". Пусты дагэтуль вагон запоўніўся бізнесменамі, спецыялістамі па міждзяржаўным гандлю. Большасць з іх прыехала у Чаромху з Сямяціч, Гайнаўкі, Кляшчэляў, Бельска і іншых мястэчкаў. Усе з усімі віталіся як вельмі добрыя сябры. З размоў вынікала, што папярэдняга дня ўсе яны ехалі гэтым самым цягніком. Успаміналі пагранічнікаў і мытнікаў з абодвух бакоў польска-беларускай мяжы, называючы іх па імёнах, задумоўваліся хто сёння будзе мець службу. У гэтым цягніку ўсе пасажыры звярталіся да сябе на „ты", у такой самой форме вяліся размовы з некаторымі польскімі і беларускімі пагранічнікамі і мытнікамі. „Co ty się k... wygłupiasz, Janek!" — гучала ў адрас паляка; „Pie...... szklankę Mikołaj, od razu będziesz lepiej stawiał pieczątki", — заахвочвалі афіцэра пагранічных войск Беларусі турысткі з Польшчы. Шэсць дзяўчатак ва ўзросце недзе ад 30-ці да 50-ці гадоў, апранутых паводле варшаўскага манера, не трацілі часу. Ужо ў Чаромсе пачалі снеданне, якое трывала недзе каля трох гадзін, акурат да першага прыпынку на Беларусі ў мястэчку Высокае. Пах вэнджанай каўбасы, свежых агуркоў, спірту і сігарэтнага дыму стварaў амаль вясельную атмасферу. Сяброўскія размовы з кожнай мінутай ставаліся больш спантанныя. — Coś ty k... nalała do tej szklanki, to chyba ma 70 procent. — A co mamy sobie k... żałować, byle g... to możesz pić ze swoim dyrektorem, — гучэлі размовы на суседняй лаўцы. Побачы дзве дзяўчынкі з багата падмаляванымі вачыма і шчарбаты джэнтльмен голасна задумоўваліся ў каго купіць тавар — у Тані ці ў Чэся? Пасля другой бутэлькі дайшлі да вываду, што ў Чэся спірт таннейшы на 10 цэнтаў, але не мае ён такога выбару сігарэт як Таня і на дадатак жыве на ўскраіне мястэчка. — Далёка і цяжка несці будзе пакупкі, — заўважыла дзяўчына, зацягнуўшыся глыбока дымам „Goldena".

— Праз дзве з паловай гадзіны цягнік будзе вяртацца з Берасця. У Тані будзе можна яшчэ нешта выпіць і з'есці, — падтрымаў сяброўку шчарбаты.

У вагоне „для некурачых" слаўся густы дым, а гутаркі ставаліся штораз больш гучнейшыя і вясёлыя. Адчувалася братэрства ўсіх людзей і народаў.

Найбольш падазронай польскім і савецкім спецслужбам здалася наша тройка з газетамі ў руках, якая ехала на канферэнцыю. Мытнікі захацелі толькі ў аднаго Славаміра Іванюка праверыць змесціва ягонай сумкі. Наш калега адрозніваўся ад іншых пасажыраў яшчэ і тым, што меў на сабе белую кашулю і гальштук. З астатнімі пасажырамі людзі ва ўніформах толькі ветліва прывіталіся.

У Высокім цягнік апусцеў амаль зусім. На падлозе валяліся толькі рэштькі харчовых прадуктаў, разлітых напіткаў і сотні акуркаў. На некаторых бізнесменаў з Польшчы чакалі іх калегі з Высокага. Каля вакзала ў мястэчку ёсць высокі жалезны плот, за якім стаяў дзядзька з каляскай поўнай нейкіх дзіўных пакункаў. Шмат асоб, купіўшы 2—3 таямнічыя пачкі, вярталіся ў цягнік, у якім вырашылі, відаць, правесці свабодны пасляабедні надзельны час. У кожнай кардоннай пачцы было 6 бутляў спірту, з якімі можна было тады паспяхова вяртацца дадому.

### Два дні пасля,

наслухаўшыся дакладаў і выказванняў дзядзькаў з усіх куткоў Еўропы, а нават Азіі і Амерыкі, вярталіся мы той самай дарогай з Берасця ў Беласток. Мытня ў Берасці — гэта найлепшая школа ўсходнееўрапейскага бізнесу, але пакольку едучы ў Беласток мінаецца гэта незвычайны гаспадарчы цэнтр, не варта пра яго больш расказваць. Якое ж было аднак нашае здзіўленне, калі ў цягніку пабачылі мы знаёмыя твары. Цяжка было толькі здагадацца, чаму ў кожным вагоне, у якім знаходзілася 6—8 чалавек, інфармавалі нас, што ўсе месцы занятыя. Але неяк удалося знайсці вагон, у якім ехала толькі старэйшая дама, якая заявіла, што мае толькі 4 літры, бо на Вялікдзень з'едуцца ўнукі і трэба іх пачаставаць нечым. Апрача яе даселіся яшчэ дзве спадарыні з сярпаста-малаткастымі пашпартамі. Цераз наш салон кожную мінуту прабягалі нейкія людзі. Некаторыя недзе спяшаліся з адвёрткай і шчыпцамі ў руках. — Ty siadaj z Grześkiem w następnym wagonie, my pójdziemy dalej. — Pod spódnicą mogę schować tylko 4 kartony. — Butelki przymocujemy w rękawach, — чулася з суседніх вагонаў. Брынканне шкла і трэск ліпучай стужкі, нервовая бегатня сведчылі, што ў цягніку адчувалася нейкая пагроза — Ten sk...n znów węszy. — W p... wsadź sobie butelkę, jak tak się boisz.— Weź ode mnie paczkę „Goldenów", ty przecież masz tylko pięć, — вяліся нармальныя рабочыя размовы паміж прадпрымальнымі людзьмі.

Цягнік набліжаўся да Высокага. У туалет у нашым вагоне ўвайшоў чалавек у сівым уніформе і з адвёрткай у руках. Штосьці там бразгатаў і нязабаве на калідор палілася вада. Выразна задаволены вылез ён з туалета, пабег недзе і праз хвіліну вярнуўся ў кампаніі мытнікаў і пагранічнікаў з мяшкамі. Невядома адкуль выцягнулі яны каля 150 літраў спірту. Запоўнілі імі мяшкі. Канфіскаваўшы гэты тавар, мытнікі дайшлі пэўна да вываду, што хопіць яго, каб даказаць сваім начальнікам аб сваёй сумленнай працы. Нікога больш не правяралі. Атмасфера ў вагонах пачынала быць больш спакойная. Дзве гадзіны, пакуль цягнік стаяў у Высокім, у яго нутры вялося нармальнае сяброўскае жыццё сучасных бізнесменаў. Найкарацей кажучы, быў гэта бар чацвёртай катэгорыі з эпохі позняга Герка.

У Чаромсе невядома чаму зноў найбольш падазроным чалавекам у вагоне здаўся польскім службам Славамір Іванюк. Спадарыня мытнік глядзела на яго сумку затуманенымі вачыма і пытала колькі вязе з сабой спіртных напіткаў і сігарэтаў. Загадала нават адкрыць сумку. Пабачыўшы кніжкі, з нейкім спачуваннем паглядзела на нас. Відаць было, што ахвотна паслала б нас у псіхічны шпіталь. Побач джэнтльмены ахрыплым голасам мармыталі, што мала часу маюць, хацелі б яшчэ паспаць, каб паспець на заўтрашні цягнік Беласток — Берасце.

**Яўген Мірановіч**

P.S. Літр спірту з беластоцкага „Polmosu" ў Беларусі прадаецца на вакзале па 2,6 долара. На базары ў Беластоку каштуе ён 8,5 долара.

## СВЯТЫ ПАСХАЛЬНЫ АГОНЬ

*Працяг са стар. 1*

якая ўжо некалькі гадоў прабывае ў Іерусаліме. Фрагмент ліста надрукаваў часопіс „Hajnowski Bratczyk" (н-р 2 за 1994 г.). Аб гэтым здарэнні пісала таксама „Праваслаўная Русь" (н-р 22 за 1994 год).

*Дзіўныя, Госпадзе, справы Твае, пакланяемся Святому Уваскрэсенню Твайму.*

**С. Н.**

## Хрыстос Уваскрос!

З канца ў канец, як свет вялік,
Плыве па свеце навіна.
Усе людзі радуюцца ўсюды
Святу вялікаму. Хрыстос Уваскрос!

Свайго жыцця не шкадуючы,
Святы Пакутнік абняў
Грахі грэшных людзей.
Свята над святам. Хрыстос Уваскрос!

Забыўшы аб усім,
Ідуць у царкву разам
Мужычок бедны і пан багаты.
Свята вялікае. Хрыстос Уваскрос!

Збавіцель наш, Ісус Хрыстос,
Вясну ў нашы душы ўнёс.
Святкуюць людзі Пасху Гасподнюю.
Свята над святам. Хрыстос Уваскрос!

**Пётр Дубіцкі**

## Зялёны спеў

ці чуеш як співаюць дрэвы
размаўляюць птушыныя сем'і
як ходзяць лясныя звяры
як цвітуць кусты маліны
снегіры шчыруюць на каліне
у лесе ў траўні
на зялёнай паляне
знойдзеш спакой і здароўе
зялёны спеў песціць сэрца

**Аўрора**

## Адкуль цячэ Арлянка

Калісьці, помню, чытаў я ў беларускай чытанцы цікавае апавяданне п.з. „Адкуль цячэ Серабранка", тэмай якога была экскурсія беларускіх школьнікаў са сваім настаўнікам па рэчцы Серабранцы, супраць яе цячэння з мэтай знайсці яе пачатак-крыніцу. Было многа ўражанняў — прыгажосць палескай прыроды, балот, лясоў. Крыніцу знайшлі ў гушчары, у маладаступным месцы.

Малая Арлянка, што цячэ каля вёсак Чэхі-Алянскія, Грабавец, Дубічы-Царкоўныя, пачатак свой бярэ каля вёскі Елянка, што ў Дубіцкай гміне. Нейкіх дзесяць гадоў таму яе крыніца знаходзілася каля мастка на дарозе Елянка — Чэхі-Арлянскія і была нават агароджана плотам. Цяпер гэтае месца ў маім паштовым раёне і я, ездзячы гэтай дарогай, са здзіўленнем убачыў, што ад крыніцы і след прапаў, а астаўся толькі мелкі сухі раўчук, у якім блішчыць вады як жабе па калена. Тоўсты бетонны бар'ер з левага боку мастка разбалены, быццам танк прайшоў па ім. Напатканы чалавек расказаў, што крыніца некалькі гадоў таму высахла зусім, а бар'ер паламалі падвыпіўшыя хлопцы і дзяўчаты, якія вярталіся з Елянкі з танцаў. Так урэзаліся, што з машыны ано лом астаўся і, на шчасце, усе ў жывых захаваліся. Пачатак рэчкі цяпер, дадаў ён, там, дзе лугі і мешаны лес. Значыць, рэчка Малая Арлянка пакарацела на якіх 800 метраў. Мае яна шмат іншых крыніц і вада ў ёй яшчэ ёсць. Помню я тыя часы, калі не было ні меліярацыі, ні штучнага возера ў Бахматах — тады Малая Арлянка выглядала казачна. Колькі ў ёй было рыбы, ракаў, а таксама дзікіх качак і іншых птушак! Усё прапала з-за прагрэсу і людской дурнаты.

**Мікалай Панфілюк**



*Без мяне Белавежская пушча была б зусім нецікавая.*

## Ці ведаеце, што...

... апошні мядзведзь у Белавежскай пушчы быў забіты недзе ў 1873 годзе.

... падчас першай сусветнай вайны ў Белавежскай пушчы перабілі ўсіх зуброў (у 1915 годзе было іх ажно 785). Апошнія загінулі ў канцы сакавіка або ў пачатку красавіка 1919 года. Аднаўленне пачалі восенню 1929 года — купілі тады тры зубры і прывезлі іх у Белавежу.

... лясныя (польскія) коні — тарпаны — жылі на свабодзе ў Белавежскай пушчы да XV стагоддзя. Зноў гадаваць іх пачалі тут у 1936 годзе.

... перад І сусветнай вайной у Белавежскай пушчы было больш 100 ласёў, якіх у вайну перабілі. Зноў пачалі іх гадаваць у 1937 годзе. Перад ІІ сусветнай вайною ў запаведніку было іх дзевяць. Падчас вайны выпусцілі іх з запаведніка, а пасля вынішчылі. У 1950 годзе зноў пачалі разводзіць ласёў.

... усе бабры былі злоўлены ў рэках у Белавежскай пушчы ў 1795—1802 гадах. Вярнуліся яны сюды па рэчцы Нараўцы ў 1958 годзе.

**Тэкст і фота**
**Я. Целушэцкага**

# ДЭМАКРАТЫ ПЕРАД ВЫБАРАМІ

**Размова з ВЯЛЯНЦІНАЙ ТРЫГУБОВІЧ, старшынёй Камісіі сувязі з замежжам Беларускага народнага фронту**

*— Спадарыня Валянціна, ёсць Дэмакратычны блок, ці яго няма?*

— Зразумела, ёсць! Хаця мы яго не рэгістравалі, была створана пагадняльная камісія, выпрацавана супольная платформа, падзелены акругі між сяброў блока.

*— БНФ выставіў сваіх кандыдатаў амаль ва ўсіх выбарчых акругах.*

— Не, ёсць адрозненне між нашымі асноўнымі кандыдатамі і дублёрамі, якіх мы выставілі на ўсялякі выпадак, калі б дзе не было іншага кандыдата ад дэмакратычных сіл. Мы нават дублёрам забаранілі збіраць подпісы, каб не рабіць выбарчай прапаганды. На сёння Дэмакратычны блок выставіў сваіх кандыдатаў у 253 акругах з 260 ўсіх. У некаторых месцах зрабілі мы выключэнне і не ставім свайго кандыдата. Так ёсць хаця б у акрузе Генадзя Карпенкі. Але супроць Станіслава Шушкевіча паставілі.

*— Як Вы ацэньваеце вашы шанцы?*

— Усе баяцца прагназаваць вынікі выбараў. Сёння 60% выбаршчыкаў кажуць, што на выбары не пойдуць. Гэта была б найбольшая пагроза, бо наш закон патрабуе, каб у выбарах прыняло ўдзел 50% плюс 1 выбаршчыкаў у кожнай акрузе. А каб стаць дэпутатам, тут другая цяжкасць, кандыдат павінен набраць 50% плюс 1 аддадзеных у акрузе галасоў. Калі ў першым, 14 мая, і другім, 28 мая, туры не будзе выбраных двух трэціх дэпутатаў, выбары няважныя. Тады краінай упраўляе прэзідэнцкая вертыкаль, пакуль не будзе вызначаны новы тэрмін выбараў. А там зноў можна будзе як-небудзь выбары сарваць, і зноў, і невядома, калі гэта ўсё кончыцца. Таму вельмі важна, каб людзі пайшлі на выбары. Нам, зразумела, адпавядала б, каб Дэмакратычны блок узяў 50% месцаў у будучым парламенце. Афіцыйныя апытанні тыя, што друкуюцца ў газетах, даюць для БНФ 20% сімпатыкаў.

*— Як ідзе выбарчая прапаганда?*

— У афіцыйных газетах, па радыё, па тэлебачанні прапаганда ідзе ў адзін бок — прэзідэнцкая. Па друкарнях прайшліся людзі з дзяржбяспекі і папярэдзілі, каб не друкавалі матэрыялаў БНФ. Грошы, якія выдзяляў урад на выбары, недастатковыя, замала далі нават Цэнтральнай выбарчай камісіі. На кожнага кандыдата абяцаюць 600 тысяч рублёў (прыблізна 50 долараў) і строга забараняецца карыстацца дапамогай спонсараў. Тут трэба быць вельмі асцярожным, бо, скажам, падвязе мяне хто-небудзь на сустрэчу з выбаршчыкамі на машыне і палічаць гэта незаконным.

*— Што Вы думаеце пра прэзідэнцкі рэферэндум?*

— Ён па-першае, неканстытуцыйны, супраць закона. Яшчэ павінен правядзенне яго зацвердзіць 10 красавіка Вярхоўны Савет, там ён можа праваліцца. Але мы баімося, што калі рэферэндум будзе, на ўсе пытанні могуць быць адказы „так". Гэта будзе галасаванне за давер прэзідэнту. Хаця, на самой справе, выбары важней, чымсьці рэферэндум, бо ад таго, хто сядзе ў Вярхоўным Савеце залежыць, што ў краіне будзе рабіцца. Таму адміністрацыі прэзідэнта быў дадзены загад ставіць свае кандыдатуры на выбары.

*— У Лукашэнкі і ў камуністаў падобныя праграмы. Ці ёсць між імі супрацоўніцтва?*

— Старая наменклатура ненавідзіць Лукашэнку, бо ён уварваўся ў яе спакойнае жыццё. Прычым ён гуляе не па правілах, значыць, не па іхніх правілах. Ён непрадказальны.

*— Дзякуй за размову. Жадаю поспеху.*

Гутарыў
**Мікола Ваўранюк**

*Новыя вершы*

*Людміла Піскун*

* * *

Зламыснікі, што ёсць і сягоння
ў нашым краі,
Імкнуцца Беларусаў спіхнуць
у адчаі
На апошняе месца...
Ніколі такога не стане:
Мову не знішчыць,
Мова — кроў у Беларуса
такая ж — святая.
Яна — маці ў славянскай
сям'і моваў.
І не трэба ніякіх закідаў-
-змоваў,
Шалапутных не трэба
„авацый".
Жыве Беларусь!
Жыве мая нацыя!

* * *

Колькі складзена песень,
Колькі сказана слоў
Пра матуліны рукі,
Іх пяшчоту—любоў.
Пра матуліна сэрца —
Немаўлят уладар.
Пра бадзёрасць матулі,
Што ўстае спазаранку,
Пасля ўтомнае працы
Пяе калыханку.
А ці бачылі зоркі
Дыяментныя ўночы?
— То іскрынкамі ззяюць
Матуліны вочы.

* * *

Бязмежнага рытму
Жыццё не спынецца
Увосень, улетку
Вясною, зімою.
Штогод у прыродзе
Усё паўтараецца,
Мяняюцца колеры
Кожнай парою.
Журботныя думкі
Часам турбуюць:
Гармоніі царства
Можа згінуць навек.
Але плёсам шырокім
Надзеі пануюць:
Жыццёвасць быцця
Зберажэ Чалавек.

*Мазыр, Беларусь*

# КУДЫ ІДЗЕ БЕЛАРУСЬ

*Працяг са стар. 1*

*— Ці не таму беларусы не цэняць сваёй незалежнасці, што была яна фактычна падараваная?*

— Нам незалежнасці не падаравалі, толькі знайшліся ў нас людзі, да якіх я і сябе залічваю, якія выкарысталі момант. Вы думаеце, што я ў Белавежскай пушчы не ведаў, што падпісваю? Ельцын хацеў тады адкінуць Гарбачова, у Краўчука былі свае разлікі, а я прававой дарогай дабіўся незалежнасці, на якую Гарбачоў ніколі не пагадзіўся б. Сёння Ельцын умацаваўся, але сваю краіну давёў да многіх трагедый, таму яму патрэбны поспех, хаця б у Беларусі. Сённяшняя ўлада марнатравіць тое, да чаго мы дайшлі.

*— Як Вы ацэньваеце беларуска-польскія адносіны?*

— Вельмі добра. Каб мы іх толькі не папсавалі. А то паявяцца нейкія „шпіёны", так як нядаўна турэцкія, і ўвесь працэс пабудовы добрасуседскіх адносін стане ў месцы.

*— А што будзе, калі Польшча апынецца ў НАТО?*

— А куды ёй дзявацца? Так як нам няма іншага выйсця, як стаць нейтральнай краінай. У нас жа ў Канстытуцыі запісаны нейтралітэт і бяз'ядзернасць. Я праціўнік агульнай сістэмы бяспекі з Расеяй. Разумеючы імкненне Польшчы ў НАТО скажу, што мы не можам вучыць суседа, як яму ўпарадкоўваць свае справы. Польшча, дарэчы, не можа нічога раіць і нам.

*— Як Вы ацэньваеце палітыку Захаду ў адносінах да былога Савецкага Саюза?*

— Захад не разумеў Усходу і не разумее. Баіцца тутэйшай дзікасці і робіць усё, каб яе ўціхамірыць. Ніякая рэальная дапамога сюды не ідзе. Я ўжо не гавару пра нас, але нават і ў Расею. У Беларусь увогуле заходні капітал не паступае, а нашы бізнесмены хочуць хутка зарабіць грошы і ўлажыць іх у бяспечныя заходнія банкі. Я не толькі выступаў за Еўрапейскую унію, але і ўсё рабіў дзеля таго, каб Беларусь туды ўвайшла. Але мы мусім выпаўняць варункі. У нас парушаюцца правы чалавека, доказам чаго хай будзе тое, што прэзідэнт выбраляе з прэсай. Мы мусім стварыць адпаведныя законы, праводзіць разумную налогавую палітыку, каб прыцягнуць капітал. Даць гарантыі, што ўкладзеныя сюды грошы не прападуць.

*— Дзякуй за размову. Жадаю поспехаў у выбарах. Скажыце толькі, у якой акрузе Вы балатуецеся?*

— Я яшчэ не вырашыў. За маю кандыдатуру збіралі подпісы ў Менску і Наваполацку. Я цяпер праводжу аналіз акруг, прыглядаюся, дзе будзе лягчэй перамагчы.

Запісаў
**Мікола Ваўранюк**

*PS. Абодва інтэрв'ю браліся 3 красавіка. А потым была сесія ВС, назначэнне даты рэферэндуму і галадоўка дэпутатаў ад апазіцыі, аб чым пішам на 2 старонцы.*

# Самая незвычайная кніжка пра гісторыю Беларусі, якую я прачытаў

Жывем нібыта ў „сусветнай вёсцы", а кніжкі вандруюць з рук у рукі як у сярэдневякоўі. Вось толькі цяпер сябра з Горадні, які быў у Гданьску, прывёз мне выдадзеную там тры гады таму кніжку. А гэтая кніжка не зваліла мяне з ног толькі таму, што ляжу з заграсаванаю нагой у ложку.

Аўтар згаданай кніжкі, Ян Паверскі*), прадстаўляе свой погляд на панаванне Баляслава Смелага, сумнавядомага забойствам епіскапа Станіслава.

Не буду занадта заглыбляцца ў змест кніжкі. Прафесар Паверскі — гэта выдатны даследчык гісторыі польска-рускіх суадносін, гісторыі карэнных прусаў і крыжакоўды, last but not least, гісторыі рыцарства. Скажу больш: Ян Паверскі гэта чалавек-легенда. Быліцы-небыліцы аб ягоных подзвігах у Савецкай Русі, дзе ён спрытам адчыняў закрытыя на сем замкоў архівы, чуў я яшчэ студэнтам кракаўскай Alma Mater.

На жаль, ягоная кніжка напісаная на такім узроўню спецыялізацыі, што толькі выдатны спецыяліст можа тэзісы Паверскага ацаніць або аспрэчыць. Я ў гісторыі сярэдніх вякоў толькі начытаны аматар. Маім улюбёным гістарычным героем з дзяцінства быў Усяслаў Чарадзей, дык перадам толькі тое, што піша Ян Паверскі аб ім.

Пачну з таго, што мы, беларусы, ледзь паверылі ў тое, што Полацк быў трэцім, апрача Кіева і Ноўгарада, цэнтрам Русі. Тым часам, паводле польскага даследчыка, у часы Баляслава існавалі дзве Русі: Кіеўская і Полацкая. Ноўгарад быў толькі ледзь не бязвольным аб'ектам змагання між Полацкам і Кіевам.

Гэтага Паверскаму яшчэ мала! Аналізуючы грамадска-палітычную сітуацыю ва ўсіх краінах навокал Балтыйскага мора, ён прыходзіць да высновы, што ўсе яны, апрача Даніі, аб'ядналіся ў другой палове XI ст. у саюз. Гэты народна-паганскі саюз ахопліваў палабскіх і паморскіх славян, прусаў, усе літоўскія і латышскія плямёны, усе заходнефінскія плямёны і шведаў. Сэрцам гэтага саюзу быў Полацк, а мазгом — Усяслаў Чарадзей.

Ян Паверскі падкрэслівае, што Усяслаў полацкі быў хрысціянінам, але такім хрысціянінам, які ладзіў з язычнікамі. Да таго саюз прадстаўляў не столькі паганскую рэакцыю, колькі народны супраціў феадальнаму парадку. Таму Усяслава падтрымоўвалі нават манахі Пячэрскай лаўры ў Кіеве і даўно таму ахрышчаныя саксонскія мужыкі.

Выступаючы супраць Яраславічаў, Усяслаў распаліў полымя, якое ахапіла не толькі Русь, але і ўсю паўночную Еўропу. Баляслаў Смелы падтрымаў Ізяслава Яраславіча ў змаганні за Кіеў і прымусіў Усяслава ўцякаць у Полацк. Тым не менш паход супраць Усяслава дорага каштаваў Польшчы. Яна страціла Памор'е, узбунтаванае Усяславам.

Усяслаў Паверскага ніколі не бараніў „роднай зямелькі". Ён змагаўся за „ўсё", за панаванне над светам, нароўні з імператарам Генрыкам IV і папам рымскім Рыгорам VII.

Такім чынам ягонае спакойнае панаванне пад канец жыцця не вынікае з таго, што ён адбіўся ад ворагаў. Ён перастаў адварочваць кола еўрапейскай гісторыі, прымірыўся з непазбежным ходам падзей.

Калі б Ян Паверскі быў беларусам, яго безумоўна назвалі б сёння ў Менску і іншых рускіх сталіцах беларускім нацыяналістам. Некалькі гадоў таму абзывалі б яго „белбурнацам", а некалькі дзесяткаў гадоў таму проста расстралялі б.

Дзякуй Богу, Ян Паверскі гэта паляк і жыве ў Польшчы, няхай сабе і рэакцыйна-каталіцкай. Безумоўна, каталіцкія гісторыкі стануць на галаве, каб задавіць памылковасць пагляду Паверскага на асобу кракаўскага епіскапа Станіслава і гісторыю наогул. Чаго вартая, напрыклад, думка, што магістра Вінцэнта, які праславіў святога Станіслава і „разаблачыў" Баляслава, „Кадлубкам" назвалі сучаснікі, насмейваючыся з яго трызнення аб нібыта чвартаваным Станіславе. Як чытач ужо дадумаўся, Паверскі — гэта закалёны марксіст і ў святых не верыць. Епіскапа Станіслава, дарэчы, лічыць унукам Станіслава, князя смаленскага. Няўжо ж святы Станіслаў гэта першы беларус, які па памылцы папаў у польскі нацыянальны Пантэон?

Скончу ўсё ж такі на іншай ноце, бо Паверскі мімаходзь закрануў струну беларускай мужыцкай душы. У гэту струну ўдарыў калісь Масей Сяднёў:

*На капцох не было нашай стражы,*
*нас таптаці, глумілі, клялі.*
*Я хачу, каб у нас былі нашы*
*Імператары і каралі.*

Як заўважыў адзін чытач гродзенскай газеты „Пагоня", менская інтэлігенцыя лечыць гэты комплекс непаўнацэннасці, прысвоіўшы сабе перамогі літоўцаў і палякаў. Паверскі цвердзіць, што ў нас **быў** наш мужыцкі Імператар. Gaudeamus! Возрадуемся!

**Алег Латышонак**

---

*) *Jan Powierski, Kryzys rządów Bolesława Śmiałego. Polityka i jej odzwierciedlenie w literaturze średniowiecznej, Gdańsk 1992.*

# У СЭРЦЫ АЗІІ



*скажы чыстым вокам*
*што гэтая дарога нарадзілася*
*ў сэрцы*
*перасунутым у недарэчны век*
*(Надзея Артымовіч)*

Не так даўно пра маскоўскую дзяржаву, а быў ёю тады СССР, нельга было сказаць дрэннага слова. Бо і як — грамадскі строй там быў найлепшы ў свеце: дзяржава дбала пра чалавека як ніводная іншая, а яе дасягненнямі ў гэтай галіне захапляўся ўвесь свет. Не толькі прамысловасць, не толькі калгасы, але і дарогі былі лепшыя, чым у Амерыцы. Бо інакш і быць не магло. Калі ўжо паявілася магчымасць на іншадумства, альтэрнатыўныя погляды, як і нямала якая навізна, паяўляліся асцярожна. Бадай у 1990 годзе ломжынскае выдавецтва „Стопка" аб'явіла конкурс п.з. „Усходнія лёсы палякаў" на ўспаміны пра вывазку ў Сібір у гады савецкай улады (1939—1941). Большасць успамінаў была ананімная: іх носьбіты жылі са свядомасцю, што такія ўспаміны могуць стаць прычынай новага скіравання на тыя самыя, савецкія дарогі. Мая субяседніца прасіла яшчэ таксама не выяўляць яе прозвішча: яна таксама хоча быць ананімнай

Пра дэпартацыю ў сэрца Азіі размаўляю з „паняй Люсяй", бо так усе знаёмыя яе называюць.

— Як гэта сталася, што Вы папалі ў ссылку?

— Было гэта 10 лютага 1940 года. У нашу вёску Грушкі, у леснічоўку, наехала многа чырвонаармейцаў. Па іх загаду пачалі з'язджацца фурманкі з навакольных вёсак. На фурманкі грузілі сем'і леснікоў з наваколля. Мой тата, які працаваў гаёвым, быў тады ў лесе. Маму зацікавіла гэтая мітусня і падышла яна да лесніхоўкі пабачыць, што дзеецца. Заглянула ў акно, а там яе заўважыў адзін чалавек з Масева з чырвонай павязкай на рукаве; прозвішча яго не скажу, бо дакладна не помню.

— О, Семянячыха! — крыкнуў ён. — А чаму ж гэта іх у спіску няма? — звярнуўся ён да нейкага савецкага пісара.

Адказу на гэтае пытанне не трэба было доўга чакаць. Як толькі пад вечар тата вяртаўся з лесу, то яго на дарозе перапынілі і пад наш дом направілі фурманку. Мама пачала збіраць усё ў дарогу: вопратку, ежу. Суседзі прынеслі нам мяшок хлеба. Зняла мама са сцяны і ікону.

— Нашто табе ікона, там не будзе часу маліцца, — буркнуў савет, які прыйшоў нас праганяць. Мама аднак ікону забрала.

І падалася ў дарогу нашая сям'я: мама, тата, трох маіх брацікаў і я; мне тады было сем гадоў. На двары стаяў моцны мароз, можа з 30 градусаў. На фурманцы побач нас ехала яшчэ чатырох узброеных чырвонаармейцаў. На станцыі ў Нараўцы пагрузілі нас у быдлячыя вагоны. І за кожнай сям'ёй засоўвалі дзверы, каб не мелі яны ўжо ніякага кантакту з вонкавым светам. І так за дзень набралі цэлы вагон, колькі ўлезла, а потым дзверы наглуха забілі. Людзей сюды пазганялі з наваколля Нараўкі і Белавежы. Калі ўжо ўсе вагоны на станцыі запоўнілі, завезлі нас у Беласток, дзе сфармавалі поезд з вагонаў з сем'ямі лясных рабочых з усёй беластоцкай акругі. Поезд адправілі на ўсход. Раз у дзень давалі папіць вады; есці не давалі — елі мы тое, што ўзялі з сабою. Ехалі мы мо з два тыдні. Прывезлі нас у Караганду. Там выпусцілі з вагонаў, далі па фуфайцы, загадалі сядаць на адкрытыя грузавікі і павезлі нас далей. Мароз быў страшэнны, мо і 50 градусаў. Везлі нас так двое сутак аж прывезлі ў лес, дзе стаялі збітыя з дошак баракі. У кожным бараку пасялілі па чатыры сем'і — па адной у кожным кутку. Холадна было. Зносілі мы голле і пасярэдзіне барака палілі вогнішча і грэліся. Спалі на пяску, прыкрыўшыся чым хто меў. Тата працаваў у лесе і праз лета паставілі хатку, дзе жылі ўжо толькі сваёй сям'ёю. Дасталі печку.

— А прыборы, пілу, сякеру, прывезлі з сабою?

— Не, там далі.

— А што елі?

— Спачатку тое, што з сабою давезлі. Падсоўвалі каструлі з вадою і кашай да вогнішча — кожная сям'я са свайго боку. Ваду бралі набіраючы снегу або з ручайкоў. Калі скончыліся прывезеныя з сабою запасы, стала цяжка. Давалі нам толькі па 10 дэкаў хлеба на дзень і больш нічога. Людзі сталі ўміраць ад холаду і голаду. Мой брацік, які не даставаў малака, самлеў ад голаду і ўжо дзве гадзіны ляжаў непрытомны. Такіх забіралі, але мама не пазволіла. І неяк яшчэ ажыў. Смерць ад голаду хуткая — чалавек сядзіць, раптам перакуліцца і ўжо яго няма. Мёртвага адразу бралі, кідалі на вазок і везлі, як дровы, на могілкі, толькі ногі матляліся. Вялікія могілкі там выраслі. Бо і мала нас вярнулася, можа толькі дзесятая частка.

— Ці што лавілі: рыбу, жывёлу нейкую?

— Не было чаго там нават і лавіць. Лазілі пацукі, вужы, яшчаркі, але гадкае гэта было; я па сённяшні дзень не магу на іх глядзець. Былі і мядзведзі, але мы не чапалі іх, так як яны і нас. Раз, помню, сабаку злапалі. Смярдзеў, але елі, бо што ж было рабіць. Мама, праўда, прыхапіла з дому з сабою крыху золата — збіралі, каб сваю хату паставіць — і за тое золата ўдавалася ёй тое-сёе купіць, каб неяк пракарміць сям'ю. Раз на Вялікдзень то нават было па тры бульбы на чалавека!

— І далёка гэта вы былі?

— Гаварылі, што 15 вёрст ад Кітая. А зімы там былі марозныя-марозныя; не такія як у нас. Снегу насыпала столькі, што каб выйсці на двор, трэба было капаць тунель уверх. Дадому ўязджалася як з горкі. Затое, як снег раставаў, від быў цудоўны: снег яшчэ ляжаў, а з яго вырастала мноства прыгожых кветак.

— А як вы адтуль выбраліся?

— Аднойчы мама пайшла ў краму, а прадавец, які меў радыёпрыёмнік і слухаў вестак, кажа: „Купляй боты, бо вам, палякам, можна будзе выходзіць, толькі нельга будзе нам для вас памагаць". Тады амерыканцы, якія сталі прысылаць Расеі дапамогу, запатрабавалі звальнення палякаў. Ну то саветы пазволілі нас адпусціць, але сваім забаранілі несці нам якую-колечы дапамогу. За гэта быў расстрэл.

— Ці каго з вывезеных расстралялі?

— Не. Там людзі вельмі добрыя, намнога лепшыя, чым у нас. І салдаты добра да нас адносіліся. Толькі чыноўнікі па-зверску. Аднойчы мама пайшла да аднаго такога нечага для нас, дзяцей, прасіць. А ён з крыкам: „А кто тебе велел детей рождать!" А мама яму: „А чаго ты мяне ад дому адарваў і сюды прывёз!!!".

— Многа вас, дзяцей, было?

— Туды паехалі трох брацікаў і я. І там яшчэ два браты-блізнюкі нарадзіліся. Роды адбываліся падчас землятрусу. Адзін з маіх брацікаў не пражыў ссылкі, памёр 9 мая 1945 года — акурат у дзень заканчэння вайны. Яму было 8 гадоў.

— Ці пільнаваў нехта вас?

— Не, не было такой патрэбы, бо куды там уцякаць?

— А ікону, што забралі з сабою, павесілі ў хаце?

— А як жа! І маліліся.

— Ці толькі ў вашай сям'і была ікона?

— Не толькі, многія мелі.

— Адкуль бралі адзенне, калі зносілася?

— Кускамі аднаго латалі другое.

— А як вы дабіраліся дадому?

— Як даведаліся, што ўжо можна нам вяртацца ў Польшчу, згаварыліся некалькімі сем'ямі і так ішлі разам.

— Не ехалі?

— Каб хто нас падвёз, таго расстралялі б. Адзін шафёр аднойчы ўбачыў нас: абдзертых, зморaных дзяцей, затрымаўся і, страшэнна зласловіўшы сваёй уладзе, зліtaваўся над намі. „Хай мяне расстраляюць, але я не магу глядзець на мукі гэтых дзетак", — сказаў і падвёз нас. Але гэта была вялікая рызыка.

— А як вы арыентаваліся куды ісці?

— Трымаліся дарог і ішлі на захад. Рэкі пераходзілі ўброд у вопратцы. Дарослыя браліся за рукі, рабілі кола, у сярэдзіну бралі дзяцей, каб вада не спарвала і так, адзетыя, пераходзілі. Рэкі там шырокія і быстрыя, але неглыбокія. Вылезшы з ледавітай вады, распальвалі вогнішча, грэліся і сушыліся. А мароз які быў! Ногі адмярзалі і на снезе аставалася кроў на слядах.

— Адкуль бралі агонь?

— Красалі. Збіралі сухое голле і красалі. Варылі кашу манную, часам малако, летам крапіву і лебяду.

— А дзе начавалі?

— Здаралася часам у пустой хатцы, з якой людзі паўцякалі. Але найчасцей то пад голым небам, скуліўшыся. Часам прасіліся на начлег. Людзі там, паўтараю, вельмі добрыя, дапамагалі нам. Часта пад фартухом, каб ніхто не бачыў, выносілі нам хлеб, якога і самі не мелі. Казахі, якія гадавалі свіней, часамі клікалі тату і пацікhеньку душылі падсвінкаў. Самі яны, мусульмане, свінога мяса не елі, а нам памагалі пражыць і падвезлі сіл на дарогу.

— І так цэлы час ішлі?

— Не, затрымоўваліся і на даўжэй. Жылі хіба ў шасці месцах. Капалі сабе зямлянкі і ў іх жылі.

— Помніце гэтыя мясцовасці?

— Не помню, але здаецца, што ў Барнауле жылі.

— Ці мама або тата хадзілі на работу?

— Мама не; была з намі, дзяцьмі. Часам хадзілі на раку золата вымываць. Набярэм руды ў драўлянае карытка і прамываем. Часам удавалася здабыць самародак велічыні з яйка. Мама то цэлую бутэльку такога золата назапасіла і прывезлі яго нават у Польшчу, але тут яно дзесь нам прапала. А тата нейкі час працаваў у капальні вугалю. Прастудзіўся і захварэў на двухбаковае запаленне лёгкіх. У шпіталі разам з ім ляжала яшчэ 11 чалавек. Усе яны памерлі, толькі тата выжыў. Мама заносіла яму, хаця і нельга было, ежу: то супу ў бутэльцы, то хлеб, бывала, што ўдавалася дастаць і малака. Тут у 1942 годзе пайшоў у армію Сікорскага, але вярнуўся назад — пабяўся ісці з атрадам, у якім панавала лютая нянавісць да рускіх. Пасля зноў пайшоў, гэтым разам у армію Васілеўскай, у якой прайшоў цэлы шлях з Леніна ў Берлін. Быў два разы ранены.

— А вы без таты ішлі?

— Так. Тата прыехаў за намі ў Алма-Ату пасля заканчэння вайны, яшчэ на кастылях. Вярталіся мы нармальным, „людскім", поездам. Ужо можна было на станцыях выходзіць і нешта сабе купляць. І так, пасля 6 гадоў і 4 месяцаў бадзяння, вярнуліся мы ў Польшчу. На граніцы аднялі ад нас трое дзяцей Жэлешчакаў і скіравалі ў сіраціnец.

— Хто гэта былі Жэлешчакі?

— Палякі з-пад Любліна. Маці іх памерла ў дарозе на ўсход, а бацька, пакінуўшы ў Сібіры сваіх дзяцей пад апеку мамы, пайшоў на фронт і там у першыя дні загінуў.

— Як вас прынялі свае?

— Пайшоў тата на кастылях да войта, прасіць нейкае памяшканне. А ён: „Я не магу нават даць тым, што мэблю маюць. А вы!?" Ну, гэта тату вывела з раўнавагі і кастылём па ім замахнуўся. Ён пад стол схаваўся і ўратаваўся, бо так тата тым кастылём па стале ўдарыў, што стол той на дзве часткі разламаўся.

— І куды вы пайшлі жыць?

— Да мамінай мамы. Нам, праўда, давалі кватэру ў Гданьску, ужо і ключы мелі, але тата адказаўся. Пабаяўся ці то гаворкі, што праваслаўных у СССР адпраўляць будуць, ці мо іншых непрыхільнасцей і прыкрасцяў на новай чужой зямлі.

— А таго чалавека, што вас у спісак на адпраўку ў СССР дапісаў, спаткалі тут?

— А як жа: па нядзелях ездзіў у касцёл у Нараўку маліцца то і бачылі. Збавідоўцам быў. Зрэшты, на гэтыя ўсе ссылкі, ці то ў Сібір , ці ў Нямеччыну, то хто людзей вызначаў? Свае людзі. Бо адкуль немцы ці саветы бралі тыя спіскі.

— А тыя сем'і, што вывезлі, то адкуль былі: тутэйшыя, ці прыезджыя з Польшчы?

—Тутэйшыя леснікі. І прыезджыя таксама. У нашым вагоне ехала жонка надлясніччага, якая крыху вершы пісала:

*10 luty będziemy my pamiętali:*
*Przyszli sowieci, myśmy jeszcze spali,*
*Nasze dzieci na sanie wsadzili*
*I na Sybir nas powywozili.*

І спявалі ў поездзе мы гэтую песню; было гэтага многа, мо з 20 строф. Забыла іх, толькі гэтая запомнілася.

— І многа людзей вярнулася?

— Вярнулася мала. Больш у зямлі засталося, чым вярнулася.

— Ці жыццё ў такіх цяжкіх умовах паўплывала на здароўе?

— А як жа! Мой адзін брат аж чатыры гады не хадзіў. Ад голаду меў толькі жывоцік і худыя-худзенькія ножкі, у якіх не было сілы. Выглядаў так, як тыя галодныя дзеткі з бедных краін, якіх часам пакажуць па тэлевізары ці ў газетах. І памёр у мінулым годзе. Ды і іншыя таксама страцілі многа здароўя: многія паўміралі, не дачакаўшы старасці, а і тыя што жывуць дык найчасцей ужо на пенсіі па інваліднасці.

— Дзякую за размову.

**У дакументах:**

(...) Ludmiła Siemieniaka (...) Repatriowali się do kraju z ZSRR — Ałma-Ata dnia 7-05-1946 r. zarejestrowali się w punkcie Państwowego Urzędu Repatriacyjnego Chełm pod nr 18-24. (...) obł. Pawłodarska, rej. Kujbyszewski, sowchoz Ekibastuz (...)

Узяў я „Sybiraka" н-р 8/93 і на стар. 30 у артыкуле „Gdzie step szeroki czyli Polaków kazachstańskie drogi" аўтарства Антоні Кучыньскага чытаю: „Przypomnijmy jedynie, że nocą wpadały do domów paruosobowe grupy enkawudzistów, wspierane przez lokalnych funkcjonariuszy, najczęściej Białorusinów, Ukraińców i Żydów, które dawały niewiele czasu na spakowanie najpotrzebniejszych rzeczy i uprowadzały mieszkańców do punktów zbornych bądź bezpośrednio do stacji kolejowych, gdzie przygotowane były bydlęce wagony, wchłaniające biednych zastraszonych ludzi".

Гэтым сказам падсумоўваю цэлую размову не таму, што ён сам па сабе з'яўляецца быццам бы яе эсэнцыяй. Падсумоўваю таму, што вучоны выступае тут у ролі суддзі, які вызначае віноўнага паводле нацыянальнага прызнаку.

І ўжо вядома, адкуль бяруцца ўсе няшчасці на свеце.

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Зорка
## старонка для дзяцей

* * *

21 сакавіка 1995 года наш клас вырашыў прывітаць вясну. На ўроку малюнкаў мы зрабілі Мажанну. Пасля гадзіны ўсе мы выйшлі на двор і пайшлі на мост на вуліцы Казімежоўскай. На месцы нашая настаўніца хацела падпаліць зімовую куклу. Калі яна разгарэлася, пані кінула яе ў ваду. Усе дзеці чакалі, пакуль яна знікне за паваротам. Пасля гэтага ўсім стала цёпла. Настаўніца сказала, што пойдзем на другі мост, каб пабачыць, як іншыя дзеці топяць свае куклы. Па дарозе мы аглядалі першыя кветкі: падснежнікі і шафраны. Калі былі на месцы, сустрэлі клас, які тапіў сваю зімовую панну. Калі мы паглядзелі ў ваду, пабачылі там і сваю лялъку. Потым мы чакалі нейкі час, каб яна адплыла. У школу вярнуліся мы пасля 12 гадзіны.

**Паўліна Попік**

## ПЕРШЫ ДЗЕНЬ ВЯСНЫ



Вучні бельскай „тройкі" з году ў год сустракаюць надыход вясны. Традыцыйна дзеці з малодшых класаў робяць лялькі-Мажанны, а потым ідуць над рэчку, паляць іх і кідаюць у ваду, праганяюць зіму.

Малодшыя вучні ў гэты дзень апрануты як кожнага дня, толькі дзяўчаткі ўпрыгожылі свае твары вяснушкамі. Старэйшых хлопцаў і дзяўчат цяжка пазнаць. Яны пераапранаюцца ў самыя цікавыя і дзіўныя строі. Фантазія вучняў захапіла мяне.

Чытачам „Зоркі" прапаную прачытаць, як гэты дзень апісвае вучаніца IIIе класа і паглядзець здымкі.

**Аліна Ваўранюк**
**фота аўтара**



## АДГАДАНКА

Перад вамі 32 літары беларускага алфавіту ў чатырох радках і васьмі калонках і 10 загадак.

У загадках трэба адгадаць лікі і іх парадкавы нумар у нейкай сукупнасці, цэласці. Напр. колькасць задніх ног у каня абазначае дзве нагі, да таго ж яны заднія — другія (бо першыя — пярэднія). Калі не ўдаецца адгануць парадкавы нумар, трэба лічыць яго першым. Гэты парадкавы нумар паказва радок, а лік — калонку, у якіх трэба шукаць патрэбную літару. Калі знойдзеце ўсе дзесяць — атрымаеце рашэнне.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| А | Б | В | Г | Д | Е | Ё | Ж |
| З | І | Й | К | Л | М | Н | О |
| П | Р | С | Т | У | Ў | Ф | Х |
| Ц | Ч | Ш | Ы | Ь | Э | Ю | Я |

1. лік месяцаў у першым квартале, 2. толькі класаў трэба правучыцца, каб закончыць пачатковую школу н-р 4, 3. колькасць дзён у другой палове дэкады, 4. толькі колаў на задняй восі легкавушкі, 5. толькі тыдняў у лютым, 6. колькасць пальцаў на руцэ, 7. толькі шыяў на медалі мае сярэбраны прызёр, 8. ад студзеня да чэрвеня, 9. толькі дзён у другім тыдні, 10. у мяне грошай на 200 тысяч старых злотаў. Першыя тры — старыя банкноты па 50 тысяч. І адна манета з новым наміналам.

## Муж-вуж

*(паводле народнай казкі)*

Пайшлі аднойчы дзеўкі купацца і сваю вопратку на беразе пакінулі. Усе прыгажуні, як кветкі вясновыя. Замуж аддаваць толькі.

Выйшаўшы з вады, адзеліся і разышліся па хатах сваіх. Толькі Марыля адна не ідзе. За вопратку бярэцца, ужо надзяваць яе мае, а тут хап, гадзюка ёй ногі абкруціла. Не дзіва, што дзеўка ад страху ні прамовіць, ні крыкнуць не змагла.

— Не бойся, прыгажуня, пастой хвілінку, — папрасіў чалавечым голасам вуж, што ў вопратцы прыхаваўся. — Выходзь за мяне замуж!

Дзеўка ад страху згадзілася.

— За два тыдні да цябе сватацца прыеду, — заявіў вуж і папоўз у возера.

Дзяўчына, як тая маланка ў хату ўляцела, мамцы ўсё расказала.

— Ого, што за штука! — прамовіла старэча і давай дачку суцяшаць.

— Калі гэты гад у сваты наважыцца прыехаць, не бойся, любка, затаўчэм яго.

Ужо і сваты прыехалі. І тут дзіва — малады стройны, прыгожы, быццам князь які. Глядзелі на яго вяскоўцы, вачэй адарваць не могуць. Кожная маці хацела б мець такога зяця. Марылі таксама ад радасці глядзёначкі заіскрыліся. Пайшла за малайца, слова не сказаўшы.

Ішлі гады. У сям'і нашых герояў ужо дзяўчынка і хлопец падрасталі. Задумалі тады ўсе бабку сваю наведаць. Ад шлюбу дачка маці не бачыла.

Муж Якуб быў залатым чалавекам. Марыля пры ім жыла, светам любавалася. Ды і кахала мужа моцна-моцна. Не мяшала ёй нават тое, што Якуб час ад часу ў гадзюку перакідаўся. Праклялі яго злыя людзі толькі за тое, што быў слаўны і прыгожы. А ў старадаўні час, бывала, праклянуць і гэта да няшчасніка прыставала.

Паехалі ў госці дружынай усе, да бабулі сваёй роднай. Ужо на панадворак уехалі, як тут няшчасце здарылася. Якуб ад хвалявання пачаў у вужа мяняцца.

Заўсёды такое з ім здаралася, калі перажываў многа.

— Ідзі ты да маткі адна, а я пад хлявом паляжу, пачакаю, — сказаў няшчаснік і ў гадзюку перамяніўся.

Марыля, каб ратаваць парадак, давай дзяцей павучаць.

— Глядзі, дачушка, не ўспамінай бабцы пра татку нашага, што вужакай бывае, а ты, — наказвала сыну, — скажы, што бацька застаўся гаспадарку пільнаваць.

Дамовіліся, пайшлі да хаты прывітацца.

— Ой дзеткі, а бацька ваш дзе гэта будзе? — ускрыкнула бабка.

— Наш татка ў хаце, гаспадарку пільнуе, — пачаў унучак. А дзяўчынка, па бабе характар мела, давай пярэчыць усім і ўсяму.

— Не вер баба, мой бацька ў цябе пад хлявом валяецца, вужакай абярнуўся, — настойвала малая.

Старэча аж прысела са здзіўлення. А як прыйшла ў сябе, на Марылю кінулася.

— Навошта ўсё маніш пра шчасце сваё. Пра дабро гаворыш, а з гадзюкай жывеш, — лямантавала маці. У гэтай злосці па вёсцы пабегла, баб-сяброўак сваіх насклікала. Тыя таго і чакалі, усе з качаргамі прыбеглі, быццам на вайну якую. Угледзелі няшчасніка Якуба-вужаку і давай біць па ім з усяе сілы. Бедную Марылю сілком у хаце заперлі. І толькі калі Якуб нежывы ляжаў, бедную ўдаву Марылю з хаты выпусцілі.

— Ой людзі вы злыя, навошта мне крыўду такую зрабілі, каханага мужа забілі, — галасіла няшчасная жанчына.

А Якуб у гэты момант ачнуўся, на жонку з ласкаю глянуў і вымавіў апошнія словы:

— Жонка любая, табе зязюлькай быць, лётаць і варажыць дзяўчатам на вяселле. Табе сынок мой салаўём быць, спевам людзей радаваць. А ты дачушка-згубніца ў жабу абярніся. Усё жыццё грудзьмі аб зямлю біся. Так і было. І зараз, калі зязюльку, салаўя ці жабу сустрэнеце, прыстаньце. Можа гэта нашыя, казачныя няшчаснікі будуць?

**Ганна Кандрацюк**

# ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

**Мышка тэлефануе ў „Зорку"**

Аднойчы, каля дзесятай гадзіны раніцы, у прыёмнай „Нівы" гучна пазваніў тэлефон. Хтосьці тоненькім галаском прапішчаў з трубкі ў вуха пані Галіны:

— Добры дзень! Ці там ужо Беласток? На гэтым канцы дроту мышка Пік-Пік! З Менска! Я хачу „Зорку"!

Пані Галіна адчыніла дзверы ў пакой, дзе на камп'ютэрах працуюць пані Марыся і Геня і пан Алесь, дзе стол пана Віталя, а тут і „Зоркі" рэдакцыя...

— Нейкая мышка з Менска хоча размаўляць з „Зоркай", — спакойна паведаміла пані Галіна, якая звыклася з вельмі дзіўнымі тэлефонамі, так што амаль нічога, што пачуе з тэлефоннай трубкі, яе не хвалюе, не здзіўляе і не бянтэжыць.

— Ах, гэта ж пэўна славутая Пік-Пік! — уцешыўся пан Віталь. — Але ж няма Ганны, рэдактара „Зоркі"! І Міры няма, сядзіць дома з Радаславам... Ну, бяру трубку я!

Віталь Луба быў крыху ўсхваляваны, паправіў акуляры на носе — першы раз жа даводзілася размаўляць яму па тэлефону з мышкай, да таго з Пік-Пік!

— Добры дзень шаноўнай мышцы. Слухае вас Віталь Луба.

— Ага, ведаю, ведаю. Тата расказваў пра сустрэчу з вамі ў Менску. А „Зорка" дзе?

— „Зорка" паехала ў бельскую „тройку", на сустрэчу з вучнямі. Ведаеце Ганну Кандрацюк?

— Ага, Міра расказвала пра яе Натальку. Цяпер яна — рэдактар „Зоркі". А Міра з малым дома?

— Але, і вершы піша для дзяцей...

— Ой, даруйце, у мяне няма шмат часу. Я першы раз званю за мяжу, а тэлефоны цяпер каштуюць многа-многа! Тата на працы, Веранічка ў спортзале, мама з Максімкам выйшлі на шпацыр... Ніхто не ведае, што я наважылася пазваніць... А псік, Пепіта! Пайшла прэч! Гэта не твая справа, з кім размаўляю! Ага, усім прывітанне ад Пепіты! Ну, цяпер — псік! Ну, перадаю твае сардэчныя марцовыя пажаданні і прывітанні спадарам катам Янкі Целушэцкага і Алега Латышонка і дзвюм Муркам пані Марыі Федарук і Галіны Рамашкі. Ну, і Міры, вядома. Усё, канец пра кашэчыя справы. А вы перадавайце ўсім яе словы.

Пан Віталь перадаў прывітанні.

— Ах, адкуль Пепіта ведае нашых катоў?! — здзівіўся. Глянуў у бок камп'ютэра, бо пані Марыся адарвала пальцы ад клавіятуры і з уцехі запляскала ў ладкі.

— Вядома, ад цёці Міры. Раз яны як рассяліся на канапе, то нікому доступу не было, да позняй ночы балбаталі пра нейкія бабскія справы, хваробы, выхоўванне малых, касметыку, моду, дыету... Аж Веранічка пакрыўдзілася, а тата найбольш, бо якраз новы верш напісаў і хацеў каб яго пахвалілі... Ну, але давайце вернемся да справы. Вось чаму я званю, не шкадуючы сямейных грошай! Ужо паўгода я хаджу за мамай, прашу, малю: запішы тыя мае гісторыі, пра якія ведаеш, і адпраў у „Зорку" (бо не пра ўсё Людміла ведае, і добра). Яна ж на машынцы хутчэй друкуе, чым я адным кіпцікам, а калі я накрэмзаю ўлапную, мала хто адчытае...

— Пані Марыся адчытае, — заўважыў пан Луба. — Яна нават Алеся Барскага ліст сумее прачытаць!

— Так? А мама то ўсё або верш піша, або малых выхоўвае, або сям'ю корміць, або рэдагуе „Першацвет", або і за іншую прозу бярэцца... Бачыце, якая! Я так ганарылася, што адзінай прозай паэткі Людмілы Рублеўскай былі мае гісторыі!.. А цяпер быццам на мяне зусім забылася. Як яе пераканаць? Ну, як? Сядзела я сёння, думала, і рашыла патэлефанаваць у „Зорку", папрасіць дзяцей, яе чытачоў, каб напісалі нашай маме ліст і патрабавалі, каб прыслала вам новыя мае прыгоды. А то ўсе мяне забудуць!

— Вядома, скажам дзецям пра гэта. Яны цябе любяць і паважаюць, і мы, дарослыя, таксама, як ніводную мышку ў свеце, нават больш чым Мікі-Маўса, бо ён намаляваны, а ты — жывая. Ну, запісваю адрас.

— Вось, — хуценька застракатала Пік-Пік, ледзь пан Віталь паспеў запісваць:

Беларусь, горад Менск,
вуліца Волаха, дом 9, корпус 2, кватэра 40,
Людміле Рублеўскай.

Будзем чакаць лістоў. Мама, пэўна, будзе цешыцца. Ну, бывайце здаровы, кладу трубку.

— Ну, ну, уцешыцца, — пракаментавала пані Марыся. — Пэўна, так як і я пасля тэлефону майго ўнучка ў Амерыку.

**Цётка Міра**

# Як нашыя прапрапрабабкі ўвесну варажылі

У XIX стагоддзі многія вучоныя цікавіліся звычаямі, абрадамі, творчасцю простага люду. Называем іх фальклярыстамі. Беларускія народныя вераванні ачаравалі многіх вучоных. Самымі вядомымі з іх былі Міхал Федароўскі, Аляксандр Сержпутоўскі, Мікалай Нікіфароўскі і Павел Шэйн. Дзякуючы ім, ведаем як нашыя прапрапрабабкі ў мінулым стагоддзі варажылі ўвесну.

* * *

Калі дзеўка вясной сустрэне першы раз лятучага бусла, пойдзе замуж, а як седзячага або ходзячага, то будзе ўдома сядзець.

*(Федароўскі)*

* * *

У час надыходу агароднай сяўбы дзяўчаты адной вёскі заворваюць асобную граду і сеюць краскі аднаго гатунку, пераважна руту: чые краскі хутчэй зацвітуць, тыя хутчэй замуж пойдуць. Адценнямі гэтай варажбы з'яўляюцца: раскошнае і благое цвіценне, бадзёрае і марнае расценне, паводле якіх прадказвалі сваё замужжа.

*(Нікіфароўскі)*

* * *

Дзяўчына саджае некалькі каліўцаў расады адпаведна колькасці прадбачаных жаніхоў. Пры гэтым яна саджае расаду карэньчыкам угору і пакідае без палюкі: калі расліна прыжывецца, жаніхом будзе той, на чыё шчасце ён пасаджаны.

*(Нікіфароўскі)*

Сёння так ужо не варожаць. Але напэўна, калі першы раз бачыце бусла, перш за ўсё думаеце: „Сустрэну лятучага, перайду ў наступны клас, седзячага — астануся паўтараць клас". Праўда? А можа ведаеце яшчэ іншыя веснавыя варажбы. Напішыце тады, калі ласка, у „Зорку".

**З-ка**

# ПЕСЕНАЯ ПАЛОСКА

Песня, якую сёння вам прапаную, напомніць вам пра варажбы, аб якіх гаворым у гэтым нумары. „Пасаділа огурочкі блізко над водою" — гэта нішто іншае, як любоўная варажба на выбранага „міленького". У беларускіх народных песнях вельмі часта сустракаюцца матывы такой варажбы.

## Посаділа огурочкі

Посаділа огурочкі блізко над водою,
Сама буду поліваті друбоною
слёзою. 2 х

Ростут, ростут огурочкі ў чэтэры
лісточкі,
Нэ бачыла міленького ўжэ
штыры годочкі. 2 х

А на пяты зобачыла, як чэрэду гнала,
Нэ сказала: мілы здраствуй, бо
маті стояла. 2 х

І маті стояла і батько дівіўся,
Нэ сказала: мілы здраствуй, а вуон
зажурыўся. 2 х

Я ёму сказала, а вуон мне ні слова,
Махнуў беленькой хустінкой —
оставайсь здорова. 2 х

# Прымерка

Шафы — насцеж,
насцеж — дзверы,
не пазнаць дальбог кватэры.
На канапе, на падлозе,
на стале і на парозе
параскідвана адзенне.
Прымяраю цэлы дзень я!
На сукенку — дзве спаднічкі,
на шкарпэткі — чаравічкі,
пяць істужак, кліпсы, хустка,
але скончу шчэ не хутка
прымяраць і прыбірацца,
у люстэрку красавацца.
І да твару ўсё, па густу!
Вось нарэшце ў шафах пуста.
Перамераныя ўборы,
маміны — таксама ўпору.
Сярод гэтае прымеркі
і заснула... неспадзеўкі.

**Ала Канапелька**



*Наталька вельмі любіць апранаць маміны сукенкі, боты, а нават маляваць губкі і вочы.*

**Фота Ганны Кандрацюк**

## Рашэнне конкурсу з нагоды 25 Сакавіка

**Дарагая „Зорка"!**

Мяне завуць Хрыстафор Яканюк. Хаджу ў школу нумар 3 у Бельску-Падляшскім, у клас IVe. Вось адказы на вашыя пытанні:

1) Сталіцай БНР быў Менск.
2) Беларусь як вольную і незалежную краіну не прызнала бальшавіцкая Расія.
3) БНР прыняла бел-чырвона-белы сцяг і герб Пагоня.

**Хрыстафор Яканюк, Крывая**

Дарагія чытачы, „Зорку" цешыць тое, што многія з вас даслалі правільныя адказы. Яны змешчаны ў лісце Хрыстафора Яканюка.

З ліку 27 правільных адказаў рэдакцыйная сяброўка, трохгадовая Наталька (яна на здымку), выцягнула тры шчаслівыя канверты.

Вось імёны і прозвішчы пераможцаў конкурсу:

**Хрыстафор Яканюк** з Крывой,
**Грышка Харужы** з Беластока,
**Паўліна Куптэль** з Гайнаўкі.

Віншуем! А ўсіх апошніх удзельнікаў інфармую, што возьмуць яны ўдзел у штомесячным спецыяльным конкурсе, дзе таксама можна выйграць гадзіннік з Пагоняй.

**Зорка**

# ГАЛАВАЛОМКА



Ці ўмееце лічыць? Калі так, дык злічыце ўсе трыкутнікі, якія выступаюць на гэтым рысунку.

**Андрэй Гаўрылюк**

## Папраўка

У "Зорцы" ад 2 красавіка 1995 г. ў рубрыцы "Песеная палоска" была намі дапушчана памылка. Надрукаваны верш "Беласточчына" няслушна мы прыпісалі Віктару Шведу, калі ў сапраўднасці яго аўтарам з'яўляецца Юры Баена. Чытачоў і абодвух паэтаў сардэчна перапрашаем.

**"Зорка"**

## У кіпцюрах цецерука

*Калі Вы, нават выпадкова, пападзеце ў вёску Сучкін Сад, а добрыя анёлы накіруюць Вас на галоўную вуліцу, мабыць сустрэнеце там незвычайнага цецерука. Калі дзень будзе сонечны і цёплы, сустрэнеце яго над ручаём, што бяжыць побач вуліцы. У менш спрыяльнае цялесным уцехам надвор'е загляньце ў карчму „Пад кудлатым хвастом". Другі столік злева — ягонае сховішча ад дажджу, ветру і подлага настрою.*

*У сваіх пошуках не разлічвайце на тое, чаго Вас вучылі ў школе, на ўроках заалогіі. Тым больш нічога добрага не спадзявайцеся ад слоўнікаў, энцыклапедыяў, ці спецыялістычных падручнікаў. Толькі арнітолагам здаецца, што цецярук, як кожная іншая птушка, з'яўляецца біялагічным кангламератам крылаў, кіпцюроў, дзюбы і ўсякіх, гэтаму падобных, элементаў.*

*Праўда не ляжыць нават пасярэдзіне, як гэта прывыклі паўтараць філосафы.*

*Птушка цецярук — двухногая істота, сярэдняга росту, даволі вялікай, бо кілаграмаў пад восемдзесят, вагі, паявілася ў рэзультаце натуральнай гібрыдызацыі. Нават без дапамогі мікраскопа даюцца прыкмеціць характэрныя рысы ўсіх яе продкаў: пустамелі звычайнай (Paplus vulgaris), жартаўніка гіганцкага (Satiricus musculus), ці дуралова драпежнага (Falconiformes duralapis).*

*Калі вы ўжо знойдзеце тое, чаго шукалі, будзьце асцярожнымі: гэтая даволі спакойная птушка, абсалютна мяняецца, калі толькі знюхае свой улюбёны ласунак — дурноту.*

*Не верце тут народнай прыказцы, што быццам бы цецярук глухі. Ён глухі толькі на крык сваёй ахвяры.*

# ДЭЛЕГАЦЫЯ
## або
## Адстаючым вучням рэпетытарства па гісторыі

Жыхары вёскі Сучкін Сад заўсёды хацелі ў Савецкі Саюз. Будучы аднак беларусамі косць ад косці, не рабілі нічога, каб ажыццявіць свае мары. Яны проста чакалі, як чакаецца з мора пагоды, Гадота, Ляўру пад яварам, ці паўторнага прыходу Месіі.

А мо яны, неадукаваныя людзі, ужо пры санацыі ведалі, што калі гара не прыйдзе да Магамета, тады Магамет возьме гэты клопат на сябе?

Першая сустрэча Савецкага Саюза з Сучкіным Садам (ці гэта толькі супадзенне абставін, што пачатковыя літары ў абедзвюх назвах аднолькавы? Казік, ты не спі, ты прачніся!) адбылася пад восень трыццаць дзевятага. Сучасадаўцы оптам кінуліся ў калгасы, а найбольшыя патрыёты ехалі за Урал, каб дабываць у тамашніх шахтах вельмі патрэбныя дзяржаве руду і вугаль. Вядома, пакрыўдзілі трохі гэтых людзей не прымаючы ў калгас іхнюю зямлю, аднак сапраўдны патрыёт гатовы сцярпець куды большыя за такую дробязь здзекі.

Першая сустрэча, як гэта практыкуецца ў культурных сферах, празмерна не доўжылася. Пагляньце толькі, як урачыста сустракаюцца ветлівы хлопец і прыстойная дзяўчына. Яны, праўда, „пабарашкуюць" крыху, але ўсё--такі разыходзяцца ў пару, каб і маці не крычала, і суседкі на языкі не бралі.

А потым прыйшлі немцы. І калі сёння той-сёй гісторык брэша, што сучасадаўцы супрацоўнічалі з акупантам, не бярыце гэтага ў галаву. Адкуль такому гісторыку ведаць, хто каму вораг, а хто каму сябар? Сядзелі вось сучасадаўцы ў глухой пушчы, бы ваўкі злыя, а тут немец, прошэ бардзо, перавёў іх да людзей, у сяло. Дадаткова яшчэ, каб мазалёў не намулялі, цягаючы з месца на месца старыя будынкі, выпаліў усё прыгожа і дачыста. А потым і драўніну ў Белавежскай пушчы на новыя дамы рэзаць дазволіў.

Скажыце самі: ці з такімі людзьмі можна не супрацоўнічаць? Ці можа паказацца незвычайным тое, што маладыя хлопцы і дзяўчыны гуртам ехалі ў Нямеччыну, дзе працай і здароўем падтрымоўвалі сяброўскую краіну? Ці можна ж забыць і Якава, нашага аднавяскоўца? Калі адзін паляк з-пад Орлі падказаў каму трэба, што ў Якава ёсць вінтоўка, той ахвотна аддаў яе немцам: бярэце, спатрэбіцца вам. А калі немец хацеў праверыць, ці гэтая вінтоўка сапраўды страляе, што ж мог зрабіць прыкладны супрацоўнік, сябра нават? Дазволіць афіцэру страляць па дурных платах? Ці ў нейкага выпадковага вераб'я? Грудзі чалавек падставіў: на, страляй браток!

У рэшце рэшт культурнай нямецкай арміі збрыдла стаяць пад Сталінградам, сярод шчыпаючай за вочы і вушы камуністычнай галечы і яна павярнула назад. Была яшчэ іншая прычына вялікага адступлення: на заходніх рубяжах паявілася ватага англічан, французаў, амерыканцаў. Як не глядзі, усё гэта патэнцыяльныя патомкі вікінгаў, франкаў, вандалаў, ці не дай Божа, афрыканскіх неграў. А з такімі жартаў няма.

Адступаючы, цягнулі немцы за сабою, бы цяля на вяроўцы, і Чырвоную Армію. Хаця не скажу, каб сучасадаўцы яе не чакалі. На трыумфальныя вароты, пабудаваныя рукамі нашых дзядоў, вы сёння спаглядаеце, не ведаючы, што гэта такое. Цяпер я ўжо магу прызнацца: гэта хлусня і сталінская прапаганда, што рускія пабудавалі ў Варшаве Палац культуры і навукі. Манументальны гэты твор узвялі за адну ноч нашыя, сучасадаўскія майстры, Коля і Антон, з прызначэннем на прывітальную браму.

А рускія? Рускія разабралі яе потым для адводу вачэй і перавезлі ў Варшаву. Ад сябе далі толькі шпіль і ахрысцілі: Палац культуры і навукі.

Пасля другой сустрэчы Сучкінага Саду з Савецкім Саюзам наша становішча не было такое яснае, як гэта цяпер нам здаецца.

— Будзеце ў Польшчы! — аб'явілі ім спачатку і сучасадаўцы, як гэта беларусы, прыселі цішком: а няхай будзе, што будзе.

— Будзеце ў Саюзе! — нехта памяняў пачатковае рашэнне.

Калі б вы бачылі гэтую радасць! Яшчэ сёння людзі ўспамінаюць і самі сабе не вераць, што маглі яны вокамгненна разабраць дамы, хлявы і пуні, каб перавезці ўсё ў суседнюю вёску.

Будынкі былі з добрай драўніны, усё-такі з драўніны. І пхацца з імі туды, дзе чакалі шкляныя дамы — было проста сорамна. На месцы засталася толькі трыумфальная брама. Цераз некалькі дзён усё зноўку адмяніласі і стала вядома, што Сучкін Сад у Саюз аднак не пападзе. Людзі, апусціўшы галовы, пацягнулі назад дамы, хлявы, і пуні. Паставілі іх на старое месца, дзе ўсё было як раней. Шкада толькі, што да гэтае пары салдацікі разабралі трыумфальную браму і павезлі яе ў Варшаву.

Беспрасветнасць сітуацыі выклікала ў сучасадаўскіх беларусаў, хіба ж першы раз ад Сапегі пачынаючы, патрэбу канкрэтнай дзейнасці.

Аднае раніцы вёска раптоўна апусцела, а ўсе яе жыхары пяшком накіраваліся ў Маскву.

Калі сёння гісторыкі і археолагі ламаюць сабе мазгаўні, чаму раптоўна зрабіўся бязлюдны горад Паленке, яны шукаюць прычын у заразе, кліматычных або рэлігійных пераменах, а некаторыя спалучаюць гэты факт з адведкамі нейкай касмічнай цывілізацыі.

Усё гэта бязглуздзіца і хлусня! Кожны расавы гісторык ведае, што старажытныя індзейцы майя адправіліся ў сваю Маскву і, заблудзіўшыся ў джунглях, бадзяюцца там пэўна па сённяшні дзень, а горад Паленке так і стаіць пусты. У нас, пакуль што, джунглі не растуць, мо і таму сучасадаўцы, схадзіўшы на Крэмль, шчасліва вярнуліся дамоў. І, можна сказаць, не з пустымі рукамі. У Саюз іх, праўда, не прынялі, аднак прэзідэнцкую, прэм'ерскую ды ўсе міністэрскія пасады абяцалі.

Каб саноўныя кандыдаты не вярталіся пяшком, сам Сталін загадаў даставіць кожнаму па ровары „Урал".

І паверце, яны адмовілі вялікаму Сталіну! О, людская пыха! О гордасць чалавечая!

Пакуль дайшлі сучасадаўцы пяшком з Масквы ў Варшаву, ва ўсіх важнейшых крэслах, даўно ўжо, расселіся Берут і ягоныя калегі.

І падумаць толькі, што пра будучыню Еўропы, на некалькі дзесятак гадоў, вырашыў ровар маркі „Урал".

**Міхась Андрасюк**

# Беласток не хоча быць засценкам



*Анджэй Якімец, дырэктар тэатра імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку, у часе прэс-канферэнцыі.*

Вяртаючыся да Міжнароднага тыдня тэатра, які праходзіў у Беластоку ад 20-га да 27-га сакавіка, так і хочацца ўсклікнуць: „Няўжо вярнуліся старыя, добрыя часы для беластоцкай культуры?!" Тыя часы, калі Беласток быў еўрапейскім горадам не столькі па колькасці крам і крамак (якіх у нас сёння поўна на кожным кроку — у цэнтры горада і на перыферыі), колькі па культурных мерапрыемствах, з якімі беластачанін мог сутыкнуцца на месцы, не выязджаючы ў вялікі свет.

Дзе тыя часы, калі ў Беластоку выступалі Шайна і Кантар, калі на Фестывалі музыкі і паэзіі жыхарам Беласточчыны былі даслоўна паднесены на падносе найлепшыя дасягненні польскай культуры — балет Джэвецкага, дэкламацыі Галубка і Лапіцкага, начныя сеансы нязвыклай спявачкі Эвы Дэмарчык...

У хуткім маршы „ў Еўропу" не заўважылі мы, як значна ад яе аддаліліся, прынамсі ў галіне культуры, даючы перавагу кансумпцыйнай мадэлі, амерыканскаму стылю штодзённага жыцця шэрага чалавека, у якім няшмат месца застаецца на культуру.

Міжнародны тыдзень тэатра, які адбываўся ў Беластоку, ужо трэці раз арганізаваў Анджэй Якімец, дырэктар Тэатра імя А. Вянгеркі. У Беластоку ён працуе ўжо восьмы сезон. Вядомы сваімі арыгінальнымі спектаклямі, хаця б вось у скансэне беластоцкай вёскі каля Юроўцаў ці на караблі, штурмуючым аўгустоўскія азёры. Тэатральны тыдзень у Беластоку дае падставу ўсвядоміць сабе з поўнай яснасцю, што няма ў свеце нічога нязменнага. Мода, яна вось таксама — калі вяртаецца, дык хоць тая, ды не тая, усё ж будзе іншая ў дэталях. Калісь на такія мерапрыемствы атрымлівалі грошы ад міністэрства культуры і рабілі фестываль. Сёння дырэктар тэатра мусіць круціцца, каб знайсці цэлую армію спонсараў (армію — бо і спонсары залішне не даюць, грашыма не раскідваюцца), якая б змагла фінансаваць усе неабходныя справы, звязаныя з прыездам у Беласток замежных артыстаў. Перш за ўсё трэба аплаціць ім дарогу, тады — гатэль, харчаванне і г.д. Ды і зацікаўленыя прыездам тэатры вымушаны „камбінаваць". Напрыклад, тэатр імя В. Камісаржэўскай з Санкт--Пецярбурга павінен быў заплаціць за грузавік, які прывёз бы ў Польшчу дэкарацыю для адзінага спектакля Я. Главацкага „Антыгона ў Нью-Йорку", аж тры тысячы долараў. Што робяць акцёры? Бяруць у поездзе пяць купэ, разлічаныя на дваццаць асоб. Акцёраў было чатырнаццаць, рэшту месца ў купэ занялі дэкарацыі (перавважна дрэвы — са шнуркоў), а труны і лаўкі, патрэбныя для спектакля, былі ў Беластоку. Адразу пасля прадстаўлення, а чацвёртай раніцы, акцёры выехалі дахаты.

А як было з тэатрам Янкі Купалы з Менска? Семдзесят дзве асобы, занятыя ў спектаклі паводле „Ідыліі" В. Дуніна-Марцінкевіча плюс афіцыйныя асобы. У чацвер, 23 сакавіка прыехалі, у пятніцу выступілі, у суботу раніцай выехалі на гастролі ў Люблін. Усім павінна было хапіць харчавання і месца ў гатэлі „Туркус".

Госці ў сваіх шматлікіх выказваннях дзякуюць дырэктару Якімцу, дырэктар дзякуе спонсарам...

Ідучы далей метадам параўнання, хацелася б з жалем сцвердзіць: калісь у тэатр хадзілі... Сёння гэта ў большасці сагнаная настаўнікамі ліцэйская моладзь, для якой такі паход у тэатр дае часта не столькі эстэтычную асалоду, колькі практычную карысць: не трэба будзе чытаць абавязковую літаратуру, не заўсёды такую захапляючую, як нейкія крымінальныя навелкі.

А ўсё ж такі ў часе тэатральных дзён у Беластоку праз залы тэатра імя Аляксандра Вянгеркі прайшло сем тысяч гледачоў! Паглядзелі яны дзевятнаццаць спектакляў тэатраў з Беларусі, Расіі, Літвы, Амерыкі, Іспаніі, Славакіі, а таксама тры спектаклі беластоцкага тэатра.

Мара дырэктара А. Якімца: каб нікога не трэба было арганізаваць, каб зала была заўсёды запоўнена. У бліжэйшы час збіраецца ён на фестываль у Хельсінкі, а пасля ў Нью-Йорк — на размовы наконт удзелу беластоцкага тэатра ў фестывалі тэатраў Усходняй Еўропы.

Вельмі цешыць нас супрацоўніцтва Тэатра імя А. Вянгеркі з Тэатрам імя Янкі Купалы з Менска, якое наладзілася не без удзелу „Нівы" і працягваецца ўжо пяць гадоў. Гастролі тэатраў то ў Беластоку, то ў Менску, фестывалі, ангажаванне асобных беларускіх акцёраў для працы ў Беластоку, а польскіх — у Менску, спрыяюць дружалюбным адносінам і праўдзіваму паходу ў Еўропу. Зрэшты, дырэктар Якімец лічыць, што ўзровень спектакляў гэтага тэатра і ігра яго акцёраў — на найвышэйшым узроўні. Ацэньвае гэты тэатр вышэй за Стары тэатр у Кракаве.

Усё ж Беласток, які ляжыць амаль у сэрцы Еўропы, не хоча быць яе засценкам.

**Ада Чачуга**
**Фота аўтара**

# Аб малітве „Ойча наш" (6)

### Няхай свяціцца Імя Тваё

У малітве Гасподняй просьба „няхай свяціцца Імя Тваё" пастаўлена на першым месцы і гэта азначае, што яна галоўная. З яе вынікае, што ўслаўленне Бога — першы і асноўны абавязак кожнага хрысціяніна.

Святое Пісанне гаворыць, што недастаткова толькі вуснамі свяціць Імя Божае, але неабходны таксама добрыя ўчынкі ў штодзённым жыцці. „Гэтым уславіцца Айцец Мой, калі вы прынясеце багаты плён", — павучаў Хрыстос у Евангеліі (Іаан, 15: 8). Апостал Павел таксама напамінаў: „Ці ясце, ці п'яце, ці нешта робіце — усё на славу Божую рабеце" (1 Кар., 10: 31); „Вы куплены дарагою цаною. Дзеля гэтага выслаўляйце Бога і ў целе вашым" (1 Кар., 6: 20).

Перш за ўсё мы ўслаўляем Бога, калі пастаянна ставім Яго ў цэнтры нашага жыцця. Нас спатыкаюць шматлікія клопаты, прыкрасці; увесь час чаргуюцца смуткі і радасці, але над усім гэтым і незалежна ад усяго мы павінны адчуваць апякункі, магутны позірк нашага Тварца. Апостал Павел пісаў: „Вы ўжо не чужыя і не прышэльцы, але суграмадзяне святым і хатнія ў Бога... пабудаваныя на фундаменце апосталаў і прарокаў, маючыя краевугольным каменем самога Ісуса Хрыста" (Эф., 2: 21). Што гэта азначае? Несумненна, для сучаснага, маладога пакалення незразумела і абстрактна гучыць такая фраза. Старэйшыя людзі да сёння памятаюць аднак мноства прыгожых, глыбоказмястоўных звычаяў і абрадаў. Мабыць, шмат хто памятае супольную малітву ўсёй сям'і перад ядой, як маці рабіла знак крыжа на падушцы дзіцяці, як бацька-селянін хрысціўся перад ворывам. З апошняга снапа ставілася ў кутку пад іконамі жменя збожжа, у часе грымотаў запальвалася грамніца і гэтак далей. Прыдарожныя капліцкі і крыжы, рытм сялянскіх прац і заняткаў, сугучны з традыцыямі і прыродай, акрэслівалі быццё нашых продкаў і надавалі ім глыбейшы сэнс. Нашы бацькі і дзяды лепш за нас разумелі і ўсведамлялі, што Хрыстос сапраўды з'яўляецца краевугольным каменем іхнага жыцця. Яны ўсім сваім жыццём, працай, адпачынкам, а нават гульнямі, шанавалі і ўслаўлялі Імя Божае.

Калі ўсё жыццё мае быць свячэннем Імя Божага, дык нельга імкнуцца да збытку, разбэшчанай кампаніі, забароненых прыемнасцей, але рашуча адкінуць усё, што супрацівіўляецца Божым запаветам.

Вельмі важная таксама адказнасць за іншых людзей, пытанне добрага прыкладу. Паводзіны аднаго чалавека часта абагульняюцца і пераносяцца на ўсю сям'ю, на асяроддзе або ўсю суполку людзей. Аб гэтым перасцерагаў Апостал, калі папракаў неафітаў: „Праз вас зневажаецца Імя Божае сярод паганаў" (Рым., 2: 24). У Евангеллі чытаем: „Гэтак няхай свеціць святло вашае перад людзьмі, каб яны бачылі вашы добрыя ўчынкі і ўславілі Айца вашага, які ў нябёсах". Прыкладнае жыццё — гэта свецкае апостальства і місіянерства даступныя кожнаму чалавеку. Усе, хто цярпліва, не наракаючы выконваюць свае штодзённыя, нядзённыя абавязкі, хто самаахвярна аддае свой час і працу для бедных, сіротаў, хворых або калекаў, хто ў распусным асяроддзі захоўвае чысціню і не паддаецца спакусам, або цярпліва і ціха пераносіць свой боль, самотнасць або крыўду — той іншым дае добры прыклад.

Ахвярнасць наогул з'яўляецца найбольш пераканаўчым доказам шчырасці і глыбіні пачуццяў. Гісторыя хрысціянства ведае незлічоныя прыклады самаахвярнасці аскетаў і пакутнікаў. Паўстанцы і жаўнеры не раз гінулі за айчыну або веру, шэраг змагароў за высакародныя ідэалы дзеля іх пасвячалі свае асабістае шчасце або нават жыццё. Іхняя ахвяра, калі нават і не была належна ацэнена, не была дарэмнай. Апостал пісаў: „Прашу вас, браты, праз міласэрнасць Божую, аддавайце целы вашыя на ахвяру жывую, святую, мілую Богу, на разумнае служэнне вашае" (Рым., 12: 1). Гэта не толькі заклік да пакутніцтва, колькі да ўтаймоўвання пажадлівасцей цела. „Калі вока тваё не сплямілася грахом, ты прынёс яго ў ахвяру; калі язык твой не сказаў нічога гадкага, калі рукі твае не зрабілі нічога дрэннага, ты ахвяраваў іх Богу", — гаварыў святы Іаан Залатавусты.

Магчыма, што для сучаснага чалавека гэта празмерныя патрабаванні. Не кожны схоча абмяжоўваць сябе і муштраваць, адмовіўшыся ад прыемнасцей і бестурботнага жыцця. Аднак без самаадрачэння і намаганняў адзінкавых энтузіястаў не было б нават спартыўных рэкордаў і лаўраў. Гэты заклік — не прымус і водгук на яго павінен быць выключна добраахвотны. Усё, што вартаснае і трывалае, дасягаецца ў выніку карпатлівай працы і поту, праз адмаўленне ад другараднага, каб дасягнуць тое, што лічыцца першарадным. Мы прызваны свяціць Імя Божае і павінны гэта рабіць найлепш як умеем. Гэты абавязак і вынікае са слоў малітвы Гасподняй.

**а. Канстанцін Бандарук**

# Прыйдзі, а ўваскрэснеш

Што ні казаць, а сведкі Іеговы ўмеюць выцягнуць чалавека з бяды і паставіць яго фінансава на ногі. Насця і Сцяпан К. з вёскі К., як гаворыцца між людзьмі, „запісаліся да іх" ды пачалі ўдзельнічаць у зборы. Жылі яны да таго часу небагата. Сцяпанаў бацька загінуў у час апошняй вайны — застрэлілі яго, мяркуюць у К., партызаны або іншая якая навалач, што хадзіла па лясах. Зляпіў Сцяпан пасля вайны сякую-такую хатку і неяк хлеб сабе здабываў.

Намова мусіла, хіба, прыйсці з яе, Насцінага, боку. Насціна сястра пайшла замуж у сям'ю, дзе іегавісты мелі ўжо сваю традыцыю ад двух пакаленняў. Верагодна, што якраз тая сястра шапнула калісьці Насці: „Чаго табе мучыцца, прыйдзі да нас, а ўваскрэснеш".

У іегавісты пайшлі абое. У той момант Сцяпан і Насця мелі двое дзетак — чатырохгадовага хлопчыка і двухгадовую дзяўчынку. Дзеці былі ахрышчаны ў Праваслаўнай царкве, але бацькі, ехаўшы ў Бельск на нядзельнае іегавіцкае маленне, бралі іх з сабою. Пачалося ўсё гэта, прыблізна, гадоў дваццаць таму.

Паволі здзейснілася і „ўваскрэсенне", якое калісьці нібыта паабяцала Насці сястра. Сцяпан і Насця не падумвалі сабе нават, каб куды-небудзь выбірацца з К. Але, пасля пераходу ў іегавісты, пачалі будову свайго дома ў Бельску. Дзеці яшчэ не ўвайшлі ў дарослы ўзрост, а яны, бацькі, не толькі што закончылі пабудову, але і перабраліся ўсёй сям'ёй туды жыць. У К. пакінулі па сабе адно старую хатку, якую час ад часу наведвалі з Бельска, а таксама Насціных бацькоў, якія дажывалі асобна і крыху яшчэ гаспадарылі.

Не было б тут пра што далей расказваць, каб не той разлад, які пачаўся ў Бельску паміж бацькамі і дзецьмі. Дачка, Крыся, была якраз у сярэдняй школе. Бацькі, якія ўвесь час вадзілі за сабою дзяцей на іегавіцкія зборы, відаць, рыхтавалі іх да другога хрышчэння. І тут здарылася нешта такое, чаго бацькі, мусіць, і не чакалі. Крыся, дайшоўшы ўжо да свайго розуму ў жыцці, заявіла бацькам, што ёй добра ў той веры, у якой нарадзілася, ніякага другога хрышчэння прымаць не будзе, і хай яны ўжо яе не цягаюць за сабою да сведкаў Іеговы.

Бацькі, відаць, узялі гэты супраціў за капрыз маладосці, бо настойвалі на паўторнае хрышчэнне дзяўчыны далей. Але тут на бок Крысі стаў і ейны брат, які таксама заявіў, каб бацькі не ўмешваліся ў справу іхняга веравызнання, бо яны абое ўжо амаль дарослыя людзі. У хаце пачаліся спрэчкі. Першай не вытрымала іх Крыся і аднаго вечара, пасля чарговай спрэчкі, уцякла з дому.

На абодвух бацькоў быццам прыйшоў одум, але дзяўчына не вярнулася ні таго вечара, ні наступнага дня. Пачаліся пошукі. Школьныя сяброўкі нічога пра яе не маглі сказаць, бо таксама не бачылі і не ведалі, куды Крыся магла падацца. Заставалася толькі адно месца, куды магла ўцячы дзяўчына. Сцяпан і Насця паехалі ў К. у апусцелую сваю вясковую хату. Крысі не было і там. Распыталі людзей.

— Ну, бачылі мы яе тут, — пацвердзілі суседзі, але таксама не ведалі, куды дзяўчына падалася далей.

К. распалажана паўз рачулку і чамусьці туды накіраваліся перапалоханыя бацькі. Сышліся людзі. Нехта ўспомніў, што Хрысцю, бо так яе звалі ў К., калі бегала падлеткам, некаторыя жанчыны празывалі „ягоўкай". Іншыя бабы папракалі іх: „Перастаньце, што дзіця вінаватае за сваіх бацькоў?"

Пасля нядоўгага пошуку бацькі выцягнулі з вады цела сваёй дачкі.

З таго часу прайшло ўжо чатыры гады. Сын Сцяпана і Насці зараз пасля самагубнай смерці сястры выбраўся ад бацькоў у Беласток і сам пачаў ладзіць сваё жыццё.

— Самі жывіце сабе са сваім дабром, — сказаў бацькам на развітанне.

Нехта з К. бачыў яго потым у Беластоку — хлопец зняў у чужых кватэру, уладкаваўся на працу, а цяперашнім часам, быццам, і сям'ю сваю ўжо нажыў. Крысю бацькі пахавалі ў Бельску.

— Сціпленькія мы зрабілі паховіны, — сказала Насця жанчынам у К. Жанчыны зразумелі тут, што хаця дзяўчына так і не перахрысцілася, але бацькі пахавалі яе паводле абраду іегавістаў. Акалічнасць гэтая закранула адну асобу. У К. жыла яшчэ бабуля Крысі.

— Цьфу, — плюнула старая жанчына, — не пасвяціўшы зямлі закапалі, без бацюшкі, бы сабаку якога.

Бабулька, размазаліўшы хустачку з ашчаднасцямі са сціплай рэнты, закупіла ў бацюшкі гадавое памінанне пакойніцы. Раней справіла яшчэ саракавыя памінкі, усё як належыць — дзеля ўпакою маладой душы сваёй любай Хрысці.

**Аляксандр Максімюк**

# ВЯЛІКДЗЕНЬ

Ёсць у цэлым годзе адна непаўторная ноч, калі ўрачысты перазвон абвяшчае вернікам радасную навіну пра Хрыстова Уваскрэсенне. Апоўначы, з-па-за зачыненых царскіх дзвярэй праваслаўных храмаў даносіцца і паступова магутнее спеў: „Уваскрэсенне Тваё, Хрысце Збавіцелю; Ангелы апяваюць у Нябёсах; і нас на Зямлі спадобі; Чыстым сэрцам Цябе ўслаўляць", і працэсіі з харугвамі і іконамі рушаць вакол храмаў. Перад вачыма і ў сэрцах вернікаў, ахопленых узнёслым настроем, разыгрываецца містэрыя пасхальнай ночы і світанку. На велікоднае прывітанне „Хрыстос Уваскрос" вернікі адказваюць „Сапраўды Уваскрос" і гэта не пустая фраза або моўная фармальнасць. Для тых, хто спадзяўся, пасціў і прасачыў у часе Вялікага Тыдня апагей зямнога жыцця Хрыста, гэта выяўленне глыбокай веры і ўпэўненасці, што Хрыстос сапраўды ўваскрос „на трэці дзень згодна Пісанням".

Для ўсіх хрысціян, прынамсі для чвэрці насельніцтва Зямлі, велікодны Цуд з'яўляецца галоўнай падзеяй гісторыі. Уваскрэсенне забітага і пахаванага Хрыста — пацверджанне Ягонай боскасці і фундамент хрысціянскай веры. „Калі Хрыстос не ўваскрос дык і навука ваша дарэмная; дарэмная і вера ваша", — пісаў Апостал (Кар., 15: 14). Калі б Сімвал Веры канчаўся словамі: „І быў укрыжаваны за нас пры Понцкім Пілаце, і адцярпеў і быў пахаваны", калі б такім вось сумным, але і звычайным акордам закончылася ягонае зямное жыццё, хрысціянства было б пабудовай без фундаменту. Якое мела б значэнне для сучаснага чалавека, што некалі жыў на зямлі яшчэ адзін незвычайны чалавек, які навучаў, аздараўляў і адпускаў грахі. Гісторыя ведае шмат маралістаў, філосафаў і аздаравіцелей, але ўсе яны памерлі і пра ніводнага з іх ніхто не скажа: „ён тут быў пахаваны, але цяпер ужо няма — ЁН УВАСКРОС". Толькі пра Хрыста сказана, што з ліку памерлых — Ён першы „ўваскрос дзеля апраўдання нашага" (Рым., 4; 25). Гэтую нядзелю, у якой заключаецца ўвесь Божы план збаўлення, прадказаў Сам Ісус: „Як Іона быў у чэраве ў кіта тры дні і тры ночы, так і Сын Чалавечы будзе ў сэрцы зямлі" (Матф., 12: 40). Уваскрэсенне перш за ўсё азначае, што Хрыстос быў тым, кім Сам Сябе назваў: Ён быў БОГАМ у ЦЕЛЕ. Бог прыняў крыжовую ахвяру выкуплення, залог будучага ўваскрэсення таксама і нашых целаў. Джала смерці аднятае і ў Хрыстовых руках апынуліся ключы смерці згодна з абяцаннем: „Я — першы і апошні і жывы... і быў мёртвы і вось жыву на вечныя вякі... Я жыву і вы будзеце жыць".

Велікодныя святы супадаюць з адраджэннем прыроды да новага жыцця пасля зімовага сну. Гэта свята канчатковай перамогі дабра і прыгажосці над сцюжамі, злом і пакутамі. Свежая вясенняя зелень прыносіць рэфлекс праўды аб адвечным аднаўленні жыцця, што выходзіць насуперак прадаўнім журбам чалавецтва. Туга па несмяротнасці гучэла ўжо ў малітвах, гімнах і пахавальных абрадах першабытных народаў. У першых хрысціян вера ва ўваскрэсенне была асабліва моцнай. У катакомбах Калікста захаваўся надмагільны надпіс: „Каханаму Кірыяку, найдаражэйшаму сыну — жыві ў Духу Святым". Вернікі і цяпер чэрпаюць з гэтай веры сілу для свайго ўнутранага адраджэння і аптымізму. „Хай ніхто, — пісаў святы Іаан Залатавусты, — не плача над сваім убоствам, бо з'явілася супольнае Царства; хай ніхто не смуткуе над грахамі, бо выбачэнне ад грабніцы заззяла; хай ніхто не баіцца смерці, бо вызваліла нас Хрыстова смерць".

З праўды аб уваскрэсенні вынікае для нас абавязак адпаведнага стаўлення да жыцця. „Дык калі вы ўваскрэслі з Хрыстом, — пісаў Апостал, — шукайце ўзвышанага і думайце аб ім — не аб зямным, выкараняючы шматлікія свае заганы і „лічачы сябе памерлым для граху, жывым жа дзеля Бога ў Хрысце Ісусе — Госпадзе нашым".

У гэтае вялікае і радаснае Свята, згодна з велікоднай песняй „назавем братамі нават тых, хто ненавідзіць нас і адзін аднаго абнімем". Хай для ўсіх, хто зараз святкуе, сёлетні Вялікдзень будзе святам нічым не азмрочанай радасці і духоўнай вясны, аптымізму і надзеі на лепшую будучыню для ўсіх нас.

**а. Канстанцін Бандарук**

# З народных песень

*Гэтым разам прапануем яшчэ дзве народныя песні, запісаныя Браніславам Кавэцкім з Катавіцаў. Папярэднія пяць песень друкавалі мы ў 12 і 14 н-рах*

* * *

Любоў бывае хараша,
Калі ўзаемнаю бывае.
Часам свяшчэнная любоў
Ва многім жыцце аднімае.
І вось я песню вам спаю,
Сваімі бачыў я глазамі,
Судзілі дзевачку адну,
Яна дзіця была гадамі.
І вось пачаўся яе суд,
Зал быў напоўнены народам,
Сядзелі суддзі ўсе кругом,
Канвой прабіў для ёй дарогу.
Яна прасіла гаварыць,
І суддзі ёй не адказалі.
Калі закончыла яна,
Увесь зал напоўніўся слязамі.
„Весь стыд і дзевічы пазор,
Я на грудзі сваёй знасіла,
Ушла ад маменькі радной,
Ох, суддзя, я яго любіла.
Я жэртвай для яго была,
І варавась яму хадзіла,
І вось вам, суддзя, прызнаюсь,
Яму я дзеньгі прынасіла.
Сярод таварышаў сваіх
Ён хвастаўся ужо другою,
Нідзе мяне не шанаваў,
Не даражыў безумец мною.
Аднойчы ён мяне прагнаў,
Я адамсціць яму рашыла.
Кінжал вонзіла яму ў грудзь,
Ох, суддзя, я яго убіла!
І прабачэння не прашу,
Бо я лічу сябе віноўнай.
Судзіце, суддзі, паскарэй,
А то і так уж сэрцу больна”.
І пашатнулася яна,
Прадсмертны ўздых ў грудзях раздаўся
І прыгавор ў руках суддзі
Так недачытаным застаўся.




* * *

Матрасёнак у ракі.
Аленькія губкі,
Вазьмі мяне сірату,
Еду ў адной юбцы.
— Калі хочаш быць маёй,
Паезжай са мною,
Я на юбку табе дам,
Будзь маёй жаною.
— Пайду к маменьке радной,
Папрашу савету,
Што я еду з мараком
Край белага свету.
Маць савету не дала:
— Брось ты доч матроса.
Матрос замуж не вазьмёт,
Только насмяёцца.
Не паслухала яна
Мамкіна савету,
Паехала з мараком,
Край белага свету.
Прайшло год, мо паўтара,
Горушка не знала,
А пра маменькі савет
Часта ўспамінала.
Прайшоў год, прайшоў другі,
Ідзе доч уныла,
На руках яна нясе
Матрасёнка сына.
— Прымі, прымі родна маць,
Сям'я не бальшая,
Матрасёнак будзе зваць
„Бабушка радная”.
— Ідзі, ідзі родна доч,
З кім савет імела,
Ты савету маяго
Слухаць не хацела.
— Пойдзем, пойдзем родны сын,
Тут нас не прымаюць,
Сіне мора глыбако.
Там нас ажыдаюць.
Яна к мору падышла,
Мора ўскалыхнулась.
Моцна сына абняла
І ў мора качнулась.
І ляжыць яна цяпер
Хвалямі забіта.
Успомні маменька радна,
Яшчэ не забыта.




<u>На спартыўнай ніве</u>

## ФУТБОЛ У КРЫНКАХ...

Футбольная каманда ЛЗС у **Крынках** з'яўляецца лідэрам у „А” класе. Існуе яна ад 1990 года і была створана па ініцыятыве войта гміны Фабіяна Цірука, Уладзіміра Тамулевіча, Рамуальда Яновіча і іншых асоб. Фінансаванне ўзялі на сябе Рада гміны, Гмінная спулдзельня і Гарбарня ў Крынках.

На вялікі поспех каманды склалася руплівая праца футбалістаў, між іншым Славаміра Карпука, Дар'юша Паляча, Адама Бомбрыха, Рыгора Баха і капітана каманды — Дар'юша Марцінчыка.

Зараз трэніруе каманду Станіслаў Кавэйша. У калектыве добрая атмасфера, кансалідацыя, вялікае заангажаванне падчас трэніровак. Дапамогу камандзе аказвае таксама дырэктар Камунальна-жыллёвай гаспадаркі ў Крынках Юры Бялюці.

## ... І МІХАЛОВЕ

Зараз у футбольным клубе ў **Міхалове** займаецца каля 100 аматараў. Яны з трохтысячнага мястэчка і бліжэйшых вёсак. Заняткі з юнацкай камандай з 26 чалавек вядзе Марк Кузьма і з шматлікай групай тзв. „трампкажаў” — Войцех Сава. Гмінныя ўлады купілі мячы і спартыўныя касцюмы. Зараз у Міхалове рамантуюць спартыўную пляцоўку. Прыдаліся б яшчэ раздзявальні для спартыўных суддзяў і футбольных каманд.

У Міхалове ягоныя жыхары ўсё ж жывуць спортам. Ёсць шмат балельшчыкаў. Мясцовая юнацкая каманда найлепшая ў ваяводстве! „Трампкажы” — таксама адны з лепшых. У агульнапольскім турніры „Футбольная кадра чакае” („Piłkarska kadra czeka”) юныя футбалісты занялі другое месца. Дзеячы і трэнеры мараць дабіцца поспехаў ў маштабе ваяводства, а то і краіны.

**(яц)**

# Не мела баба... дзеда

Пазнаёмілася Нюрка з Філіпам зусім неспадзявана. Каму па старасць шукаць знаёмстваў? Добра, калі ёсць да каго з радні прытуліцца — калі дзеці, унукі ёсць, дарам хлеб не ясі... Яно вядома, за ўсё жыццё ты ўжо досыць нарабіўся, і належыцца табе ўжо пенсія не толькі за верную службу на дзяржаўным ці ў полі, але і ад радзіны. Чалавек усё ж хоча далей быць патрэбным, хоць якую лыжку памыць, які куль звязаць ці ў агародзе летам пагартацца. Бо інакш усё на чалавеку заклякне, калі рук ды ног не ўжываеш, ды і розум не так працуе, калі каменем на канапе сядзіш, не абатрэшся з людзьмі...

Не наракала Нюрка на тое, што свае яе не хочуць, што, можа, непатрэбная, не. Хат сваіх, папраўдзе, мела аж шэсць: пры адным сыне ў вёсцы (вялікая, пакояў аж шэсць, кухня, і на падстрэшку шыкоўныя два пакоі, усё ў драўніне, акуратна, як у пушачцы, чысценька, лепш, чым у неадной хаце ў горадзе, а ўсё ейны Валюсь сам парабіў, уласнымі рукамі, такі малайчына майстар Нюры ўдаўся!), пры другім — у мястэчку, мураванка аднапавярховая, але з летняй кухняй, уся сям'я ў футрах ходзіць, бо Адась андатры гадуе, а яшчэ і кватэры ў дачок ёсць — у Ганны ў Гайнаўцы, у Марускі ў Беластоку, у Надзі ў Вроцлаве; усе хаты рыхтык маюць, усе павывучваліся, добрых чалавекаў маюць. І дзеткі ім усім добрыя паўдаваліся, са школамі, некаторыя пайшлі ўжо на сваё, адзін унучак у Швецыі. Бабе нічога не шкадуюць, усё запрашаюць, лісты шлюць, падарункі, усяго панавозяць, як едуць у госці. Каб так усім бабкам было добра, як Нюрцы! Цяпер то і мала бывае ў сваёй хатачцы, праўда, старэнькай, але абшытай свежай, жоўтай шалёўкай, на новым падмурку, што пад садком, ужо на сынавай гаспадарцы, стаіць. Бывала, возьме пенсію, купіць што трэба да хаты, пасядзіць крыху, і ў дарогу, калі здароўе дазваляе — то ды сына, то да дачкі, то да ўнучкі, што якраз ёй праўнучка нарадзіла... У свае семдзесят два гады Нюрка добра яшчэ трымаецца — не затоўстая, але з поўненькім чыстым тварам, добра падстрыжаная (унучкі забаранілі рабіць бабулі завіўку, бо, казалі, састарае), апранутая з густам, хоць скромна, — бабулька, хоць вясковая, магла „сысці” за добра захаваную гараджанку, пенсіянерку-настаўніцу ці біліятэкарку, бо і загаварыць да кожнага ўмее. Так вось пра яе сказаў у санаторыі ў Цехацінку адзін яе аднагодак. Дзядуля запрасіў яе нават пасля ў госці, паказаць дачцэ сваю новую сяброўку. Тады на пытанне тае ж, абсаджанай замызганай грамадкай патомства, калі старэчы возьмуць шлюб і дзе маюць намер жыць, бо ў гэтай хаце ім месца не будзе (кватэра, дарэчы, была ўласнасцю бацькі), тым больш для кацапкі, Нюрка з гонарам паправілася ў крэсле і сказала: „Мілая мая, не на тваё думаю прыходзіць, і нічога твайго мне не трэба, калі ў цябе ёсць сваіго што-кольвек. Замуж у ніякім выпадку не збіраюся, а ў такую сям'ю трапіць — невялікае шчасце, бо, вядома, з кім павядзешся, ад таго і набярэшся”. І пайшла сабе. Караль пабег за ёю, але нават на ліфце не дагнаў.

Нюрка знаёмілася з многімі. Мела талент натуральнага і простага кантакту з людзьмі. Адкрываліся перад ёю незнаёмыя людзі ў цягніку, на прыпынках, якраз у яе пыталі дарогу, парады. І сама заўважала, каму трэба ісці з дапамогай, з добрым словам. Так было і цяпер. Прыбегла да яе дачччына суседка, пані Кася. „Пані Аня, давайце падыдзем да майго знаёмага. Мне крыху няёмка, але ж трэба чалавеку дапамагчы, хоць суцешыць добрым словам. Філіп у дэпрэсіі, толькі што вярнуўся з бальніцы, а ў хаце забіцца можна, такі непарадак. Няма дома гаспадыні, жонка доўга хварэла, пахаваў яе будзе год таму. Я сама не пайду, бо зараз плёткі будуць, што да яго ліпну, нам жа, удовым, абоім па шэсцьдзесят. Я з нябожчыцай добра жыла, і не хачу, каб перамывалі мае костачкі...” Сапраўды, хата была ў руіне. Філіп не прыбіраў там бадай ці не ад жончынай смерці. Праўду кажуць, што самотная старая жанчына лепш дасць сабе неяк рады. Ні Філіпава прыёмная дачка, ні дваццацігадовы ўнук, прапісаны ў гэтай хаце як апякун (каб у будучыні атрымаць дзедаву кватэру) не заглянулі нават каб шклянку вады падаць. Стась, дарэчы, не раз баляваў па-суседску. Дачка раз прыйшла, абяцала прыбраць, але „прыбрала” пляшку гарэлкі, матчын пярсцёнак і пяць мільёнаў, а калі бацька быў у бальніцы, вынесла матчына норкавае футра і мэблевую сценку. Суседзі гэта бачылі, алі ніхто слова не сказаў. І гэта найбольш прыбіла Філіпа. Усе яму спачувалі, бо добры быў чалавск, але ніхто не спяшаўся з дапамогай. Паявіліся толькі Кася з Нюркай, аб'ючаныя парашкамі, анучамі, шчоткамі, новымі шпалерамі, фарбай, пэндзлямі. Чысцілі хату тры тыдні — рамантавалі, клеілі, збівалі, мылі. Нюрка заўважыла: Кася сапраўды бадай ці не збіраецца стаць тут за гаспадыню. Хата вялікая, трохпакаёвая, цяпер аж блішчыць, ды і маладыя абое, свабодныя... Кася, відна, аж млее. Але на чацвёртым тыдні бухнуў Філіп на калені перад Нюркай з букетам ружаў, у яе папрасіў руку. Кацця выйшла, у нервахляснуўшы дзвярыма. Нюрка адбівалася: нашто ёй такое! Каб зноў яе „кацапкай” называлі!? Ды і нашто ёй такі малады муж? Так здаецца — дванаццаць гадоў! Што людзі скажуць? Ажыўлены Філіп, перапоўнены галантнасцю і новай надзеяй абсыпаў каханую кветкамі, выкватараваў унука, кінуў курыць цыгарэты (а смаліў жа трыццаць пяць гадоў!)... Думала, думала Нюрка, аж пераканалася, што можа і варта пачаць новае жыццё. Запісаліся на чаргу ў загс. Тыдзень да вяселля „маладая” перавезла ўсе свае манаткі да нарачонага. А тры дні перад шлюбам, каля поўначы завіталі да іх зяць з унукам. Нацягнуў Філіп халат на піжаму, выйшаў да гасцей, і тут хіснуўся: схапіў зяць за каўнер, кінуў на шафу ў пярэдняй:

— Ты што, стары пень, надумаў?! Чаго прывёў сюды гэту старую кацапскую к...? Пажывеш месяцы тры, і яна тваю хату забярэ! Нашу хату! Якім правам ты *вымэльдаваў* Стася?!

А ўнучак бойка шарпануў Нюрку за плячо:

— Што, стрыжаная кацапская б...?! Мяне выгнала з хаты? Стаяць абое над магілай, і амураў ім захацелася! Што, рамонт зрабіла? Заплачу табе за яго, але да суботы тут мае твайго духу не быць! А то касцей не пазбіраеш! Бач яе, *паляцела* на маю хату!

Хацела Нюрка неяк супакоіць раз'юшаных сваякоў, прасіла, маліла, каб пусцілі старога...

— Ага, будзеце вы мець шлюб! — учапіўся ў яе валасы Філіпаў зяць. — Не дажывеш, стары пень, таго дня! Марш у сваю вёху!

Суседзі не прыбеглі. Яны заўсёды добра ведаюць: ніколі не суньце носа ў чужыя сямейныя справы.

— Што, думаеш, хтосьці прыбяжыць? Не крычы, не заві, — рагатаў Стась. — І ніхто ведаць не будзе, як мы тут з вамі справу аформім!

— Не, сведак ёсць, — паказала Нюрка на магнітафон, сёння прынесены з рамонту, што поруч стаяў на паліцы. — Тут усё запісана!

Няпрошаныя госці зніклі хутчэй, чым прыйшлі.

На сціплым вясельным прыёме, які ўдалося падрыхтаваць Філіпу і Нюрцы, не было нікога з радні маладога. Так і жывуць паціху цяпер абое ўжо пару месяцаў. А вось тыдзень таму хтосьці іх кватэру на першым паверсе абкідаў каменнем і грудамі гліны. Невядома, хто гэта быў, бо зламысніка не злавілі.

**Міра Лукша**

# Мана пана Семенюка

Як кажуць, праўда ў вочы коле і, адказваючы на нататку Валянціна Семенюка п.з. „Мазня пана Панфілюка" („Ніва", 14 н-р), хачу я ў сваю чаргу спытаць яго: каго я так выкупаў у памыях і балоце і каму гэта карона з галавы зляцела? Значыць, калі нехта да мяне чапляецца, закідваючы невядома што, дык я павінен маўчаць, а нат кожны паклёп яшчэ пахваліць? Рысай майго характару з'яўляецца непрымірымая барацьба з няпраўдай, крывадушнасцю, зладзействам... Няхай Семянюк найперш спытае жыхароў маёй вёскі, які я ў сапраўднасці. Калі я ў сваіх публікацыях бараню прыроду і не падлізваюся да ніякіх прайдзісветаў — гэта значыць мазня? І хачу коратка заявіць: тое, што пан Семянюк пра мяне напісаў, гэта мана ад пачатку да канца. Бо ў дубіцкай „Салідарнасці" я ніякай функцыі не выконваў і то па той простай прычыне, што да яе ніколі не належаў. Быў і з'яўляюся толькі яе прыхільнікам, а мае сімпатыі гэта ўжо толькі мая асабістая справа. А тую „палову цяляці" і зялёныя, што мне прыпісаеце, хай той камуніст, якому дубіцкая „Салідарнасць" памагла ў вядомай справе, вязе Вам — яго паплечніку. Ён і Вы маеце падобныя погляды на тое, што на свеце дзеецца. Камуністы многіх навучылі, як браць і даваць і таму ад іх я ўцёк далёка яшчэ перад „круглым сталом". Колькі жыву, хабараў не браў і не даваў, і браць і даваць не буду. Падумайце, пан Семянюк, калі думаць умееце: хто мне дасць хабар? Хіба нейкі дурань. І на шчасце я не жабрак. І яшчэ хачу Вас расчараваць адным: на тым сходзе, дзе спомнены камуніст прасіў у дубіцкае „Салідарнасці" ласкі, я не быў; пра яго ход я на другі дзень даведаўся. І яшчэ вас пацешу весткай, што „Салідарнасць" у Дубічах-Царкоўных ужо не існуе. А што „Салідарнасць" цяпер абселі былыя камуністы і клерыкалы, то мо гэта няпраўда? Яшчэ адказ на пытанне, якія рысы характару павінен мець чалавек, каб камуністам звацца: рысы характару сваіх ідалаў — Леніна, Сталіна, Мао Цзэ-дуна.

**Мікалай Панфілюк**

# З нашага жыцця

На кірмашы ля жабруючай румынскай цыганкі стаіць жанчына і плача:

— Ой, якая бяда ў мяне! Як мне пражыць гэты месяц? Як мела грошы, то давала іх хоць крыху вам, няшчасным, а цяпер і сама не маю.

А цыганка толькі працягвала да яе руку і паўтарала: „Дай" і дадавала нешта па-румынску.

— Што вы перад ёю плачаце? — запыталася прахожая. — Яна ж вас не разумее.

— Я плачу, бо ёй нехта дасць грош на хлеб, а мне не.

— А паспрабуйце і вы жабраваць. Павесьце лісток на грудзях, што муж з дому выгнаў, дзеці адракліся. Сядзьце пад касцёлам. Напэўна знойдзецца хоць адзін чалавек, які вас пашкадуе.

***

— Мае суседзі так цяпер б'юцца і сварацца, што слухаць прыкра, — расказвае Міля Касі.

— Што ты кажаш?! Яны ж так добра жылі раней.

— Узялі кіёск у арэнду. Заказалі латарэйныя білеты. Эміль рашыў купіць усе, думаў, абавязкова выйграе нешта. Аня была супраць, але яе не паслухаў. Амаль усе білеты былі пройгрышнымі, толькі 30 з іх вярнулі сваю цану. Жонка цяпер кідаецца на Эміля з кулакамі, ён адбіваецца, ну і начынаецца пекла.

***

— Чаму ты не хочаш ісці за мяне замуж? — пытае Марк Юліту. — Ці таму, што я не прыгажун? Хоць мая краса невялікая, затое сэрца ў мяне добрае...

— Ну і што з таго маеш? Прыгажосць убачыць кожны, а ў сэрца не загляне.

**Аўрора**

# КРЫЖАВАНКА



**Гарызантальна:** 3. жыхар Сібіры, 8. малады пан, 9. рака ў Перу, 10. утрымоўвае судна на месцы, 11. пагардлівая клічка расейца, 13. навучанне, адукацыя, 15. мука з шатраванага зерня, 16. маленькае насякомае-крывасмок, 20. вялікі натоўп людзей, 22. невялікі лірычны твор, 23. лёгкае паліто, 27. незанятая пасада, 29. італьянскі кампазітар (1792—1868), 30. васьміног, 31. вострая частка нажа, 32. сталіца Абхазіі, 33. афрыканская краіна, 34. выраз твару.

**Вертыкальна:** 1. пустыня ў Афрыцы, 2. горны масіў у Балгарыі непадалёку Сафіі, 4. маіс, 5. старажытны горад на Палессі, 6. усходні ласунак, 7. кухонная печка, 12. падпольны ваяўнік, 14. стэнаграфія, 16. аўтаномная рэспубліка на поўначы еўрапейскай часткі Расеі, 17. звычай, прывычка, 18. рыбны адвар, 19. страва, ежа, 21. чалавек са светлымі валасамі, 24. недарэчная памылка, 25. драпежная рыба нашых вадаёмаў, 26. вузкая палоска тканіны для завязкі, 27. выклікае захворванне, мікраарганізм, 28. шарсцяны дыван ручной работы.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 10 н-ра:**

**Гарызантальна:** Кігалі, Марока, трасца, сажа, пара, брыганціна, брак, Малі, Іліяда, кампот, ліпень.

**Вертыкальна:** кіраса, літр, маца, камера, астраномія, жабрак, Панама, брычка, лівень, ілот, Далі.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Бэаце Капій** з Любліна і **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

# Веснавыя песні

Вялікдзень, які сваім генезісам звязаны з даўнім праславянскім святкаваннем вясны, сваёй абраднасцю выключаў магчымасць іншых матываў, апрача ўслаўлянbackslash ня прыроды, чалавека, яго працы. Тыповым прыкладам вышэйсказанага з'яўляецца агулька „Ой, вэсна-красна". Само спалучэнне слоў „вэсна-красна" акрэслівае вясну, як самую прыгожую пару года. Вынікае гэта з народнага разумення слова „красна", якое нясе ў сабе некалькі значэнняў: у адносінах колеру — чырвоная, у адносінах прыгажосці — прыгожая (красіва) і ў адносінах якасці — найлепшая, самая добрая. Апрача гэтага вясна шчодрая:

*Ой, вэсна-красна, чого ты нам*
*прынэсла,*
*Ой, рано, рано, чого ты нам*
*прынэсла.*
*Малым діточкам по крашонум*
*йіечку,*
*Старым бабулькм по вышытым*
*чэпочку.*
*(Запісаная ў в. Трасцянка)*

Матывам *крашонага йіечка* агулька зварочваецца да валачобных песень і звычаю абдорвання дзяцей т.зв. „волочэбным".

### КАНАПЕЛЬКА

*(Валачобная песня)*

Тонка, велька канапелька,
Гэй, лолам, лолам!
Найтанчэйшая красна панна.
Гэй, лолам, лолам!
Красна панна, дай Марылька
Гэй, лолам, лолам!
На Дунаі хусты мыла.
Гэй, лолам, лолам!
Хусты мыла, бель бяліла,
Гэй, лолам, лолам!
Золоты персцень з рук ураніла;
Гэй, лолам, лолам!
Шчука-рыба ўхапіла.
Гэй, лолам, лолам!
Шчука-рыба, дунаечка.
Гэй, лолам, лолам!
Сама панна беражэчкам, —
Гэй, лолам, лолам!
Судасіла тры рыбачанькі.
Гэй, лолам, лолам!
Усе тры брацянькі.
Гэй, лолам, лолам!
Закідайце шолкаў невад
Гэй, лолам, лолам!
Ды зыймайце шчуку-рыбу,
Гэй, лолам, лолам!
Й ды зымайце-расплатайце,
Гэй, лолам, лолам!
Золоты персцень даставайце.
Гэй, лолам, лолам!
Што нам панна за дар дасі?
Гэй, лолам, лолам!
Пару яек на талерак,
Гэй, лолам, лолам!
Каўбасою акружыўшы,
Гэй, лолам, лолам!
Белым сэрам завяршыўшы.
Гэй, лолам, лолам!

*Запісаў*
**Янка Целушэцкі**

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы праводзіць збор грошай на пабудову Музея. Ахвяраванні на пабудову Музея (у польскай і замежнай валютах) просім пералічваць на рахунак: **PKO BP, Oddział w Hajnówce, nr konta: 5627-5454-132.**

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | |
|---|---|
| 4 418. Уладзімір Гацута (Гайнаўка) | — 18 зл. |
| 4 419. Аляксандр Станько (Ласінка) | — 10 зл. |
| 4 420. Гражына і Славамір Бароўскія (Беласток) | — 15 зл. |
| 4 421. Васіль Дамброўскі (Гайнаўка) | — 3 зл. |
| 4 422. Ніна Баршчэўская (Варшава) | — 50 зл. |
| 4 423. Аляксандр Баршчэўскі (Варшава) | — 100 зл. |
| 4 424. Томас Бэрд (ЗША) | — 100 дол. ЗША |
| 4 425. Канстанцін Майсеня (Гайнаўка) | — 20 зл. |
| 4 426. Ян Даніловіч (Гайнаўка) | — 5 зл. |

**Дзякуем.**

**Наш адрас:** Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. 30-16.




### Жаніцьба

Калі Павел ажаніўся,
Дзіўны сон яму прысніўся:
Кажа з'ява: „Пацярпі
І з жонкаю ты не спі.
На сена ідзі спаць —
Мала хто будзе знаць,
У клуні прыхавайся,
Нікому не выяўляйся".
Ён, як дурману панюхаў,
Злога голасу паслухаў,
На ноч ухапіў дзярмо
І ў клуню пабег бягом.
Дзярмом ён закрунуўся,
Ды апоўначы прачнуўся,
Чуе: — Дык тут ты спіш?
На цябе патрэбны біч! —
Паўла жонка адшукала,
Лаяла і прэч пагнала:
— Навошта мне муж-еўнух?
Мне патрэбны ўночы зух!

**Мікалай Панфілюк**




"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міраловіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцыляры), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1995 r. upływa 20 maja 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 6,50 zł (65 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,10 zł (11 000 st. zł), a kwartalnie — 14,30 złotych (143 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Пароды

**Жаданні ёсць!**

*Цямнее зрок,*
*Слабее слых,*
*і сіла ўжо не тая...*
*„Ці ёсць жаданні у старых?"*
*............................*
*Жаданняў шмат...*

*Хведар Жычка*

Цямнее зрок,
слабее слых,
і сіла ўжо не тая...
Але жанчынак маладых
Яшчэ хачу бывае.

На святы п'ю ўжо толькі квас,
І мерзну без валёнак...
Але вінца яшчэ, падчас,
Хачу, як маладзёнак.

Усё часцей, як сноп, ляжу,
Часопісы гартаю...
Але паехаць за мяжу
Хачу аж завываю.

— Ці ёсць жаданні у старых?
Суседка зноў пытае.
Як застанемся мы ўдваіх
Адказ мой атрымае!

**Вінцук Асьцюк**

## СЕНТЭНЦЫІ

Смерць не кранае, смерць бярэ.

* * *

Пах смерці блудзіць між засушанымі кветкамі і апаўшым лісцем.

* * *

Смерць важыць столькі, колькі важыць душа нябожчыка.

* * *

Смерць — парог між тым, што ёсць і тым, чаго няма.

* * *

Бальніца — даспявальня нябожчыкаў.

**Барыс Руско**

*Паўло Глазавы*

## Турак

Збіраецца мой знаёмы
У далёкую вандроўку
Прыдбаў сабе у Турцыю
На тыдзень ён пуцёўку.

Справіў касцюм элегантны,
Вучыць турэцкую мову.
Ужо ведае, як завуць туркі
Свінню і карову.

Як запытаць па-турэцку:
Колькі каштуюць шубы,
Дзе купіць мыла і пасту
Якою ўсе чысцяць зубы.

Галава гудзе ў яго,
Ад турэцкіх тых слоў.
Ён, дарэчы, на Украіне
Жыве больш за трыццаць гадоў.

Ходзіць важна, нібы гаспадар
І па-расейску лапоча.
А мовы сваёй украінскай
Ён ведаць зусім не хоча.

*Пераклад з украінскай Валерыя Бабея*

# НАВУКА



Мал. Анджэя Стока

## Здубавецця

### Стаіць

Хварэў дзед. Захацеў скароміны. Зарэзала жонка пеўня і паставіла ў печку варыць. Памёр, так і не паспытаўшы пявучага мяса. Стаіць кацёл за засланкай. Плача баба нараспеў:

— А ты ж памёр, а твой пеўнік стаіць.

### Пей!

Да ўрача прыйшла жанчына ў гадах. Урач гаворыць, як і належыць вучонаму чалавеку, толькі па-расійску. Ставіць шклянку з вадой дый кажа:

— Пей!

Жанчына і запела:

— Пасею гурочкі!..

### Сумеў

Была талака ў пана. Усё зрабілі. Ну, пан і трактуе талакоўцаў. Сталы ломяцца ад закусі. Толькі там-сям сірацеюць пляшкі з дарагім пітвом. Трохі выпілі, нешта ўкусілі. Сумна разышліся.

І талака была ў беднага мужыка. Той на пачастунак нагнаў самагонкі мацнейшай за самую заядлую лаянку. А на закусь — напарыў рэпы. Упіліся як не да смерці. Нехта шыю скруціў, нехта нагу вывернуў, некаму нос ледзьве не адкусілі. Прыйшоўшы ў сябе, пасля доўга ўспаміналі ды прыгаворвалі: „Хоць бядняк, а сумеў жа людцаў прывеціць!"

### Мая таксама

У аднаго чалавека было шмат дзяцей. І ўсе — дочкі. А жаніхоў няма. У сябра ягонага таксама адны дочкі незамужнія. Жылі ў розных вёсках, далекавата. Бачыліся рэдка. Сустракаюцца, здароўкаюцца. І адразу:

— Ці ведаеш, Стахван, якое гора ў мяне?

— Не кажы, Салівей, мая таксама нарадзіла.

### Як ахвяравалася

Маладзіца ахвяравалася паўзці ад хаты да царквы. Паўзе. А спадніца спаўзла. Ідзе чалавек дый пытаецца:

— Як ты паўзеш?

— Як ахвяравалася, так і паўзу...

### Паслухала

Галосіць жонка па мужыку, аж разрываецца, і прыслухоўваецца, каб суцешылі. Нарэшце нехта з суседак спачувае:

— А досыць табе, Праксэда, убівацца, пашкадуй сябе.

І гаротніца ўжо весялей, але плача:

— Калі ж досыць, дык і досыць...

**(„Вожык")**

## Смех у санаторыі

— Ці выступаеце яшчэ ў ролі каханкаў? — пытае рэжысёр папулярнага, пажылога акцёра.

— Так, толькі да любоўных сцэнаў патрабую дублёра.

*

— Першы год пасля вяселля муж заўсёды будзіў мяне пацалункамі.

— А пасля?

— Купіў будзільнік.

*

Сустракаюцца двох сяброў:

— Чуў, што купіў ты сваёй жонцы вельмі дарагія талеркі, ці не раскоша гэта?

— Не, гэта халодны разлік. Яны такія дарагія, што жонка не дазваляе мне іх змываць: баіцца, што магу пабіць.

*

Размаўляюць дзве сяброўкі:

— Учарашні дзень быў страшэнна няўдалы. Уяві сабе, што аж пяць разоў мяняла я месца ў кіно.

— Зачапляў цябе нехта?

— Так, толькі на пяты раз.

*

Размаўляюць двох сяброў:

— Ну, і якая гэтая твая дзяўчына?

— Цудоўная, толькі мае адну загану.

— Якую?

— Не ўмее спяваць.

— І ты гэта лічыш заганай?

— Так, бо яна ўвесь час спявае.

*

— Ведаеш, увесь час мне здаецца, што вісіць нада мною нейкае няшчасце...

— Нічога дзіўнага: твая жонка вышэйшая за цябе.

*

— Чуў я, што гарэў твой дом.

— Гэта праўда.

— І што пачаў найперш ратаваць?

— Вынес на руках жонку з кухні.

— Разумею: у такой мітусні кожны можа страціць розум.

Даслаў
**Андрэй Гаўрылюк**

Мал. Пётра Корбеля

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Мілае Сэрцайка! І як тут быць, скажы, калі ласка? Няма ў нас ні свабоды, ні дэмакратыі. Нідзе не магу я сустрэцца са сваім хлопцам, хоць ты трэсні. Дзе не крануся — то маці пільнуе, то бацька на дарозе, а то і бабуля сядзе ды сядзіць над каркам, як хлопец які да мяне прыйдзе. Сумна бабулі, хоча разрыўкі! А што мне, беднай, тады рабіць?!

Мне ж ужо пятнаццаць гадоў — я не дзіця. Смешна было б, каб я чакала з гэтым сексам яшчэ дзесяць гадоў, калі скончу ўрэшце вышэйшую школу, ды змагу выйсці замуж. А, зрэшты, навошта тады ў школах прапагандуюць прэзерватывы?! Кажуць нават, што раздаваць іх вучням будуць бясплатна... Дзеля чаго, пытаюся? Каб мы іх трымалі на запас?

У мінулым годзе я была ў знаёмых у Англіі. Уяві сабе, што ў іх секс у моладзі — зусім звычайная з'ява. Маці, калі даведаецца, што ў яе дачкі завёўся кавалер, адразу пытаецца, ці яна забяспечылася сродкамі ад цяжарнасці, а часта і сама купляе ёй розныя прэпараты. Думаю, што таксама робяць і бацькі хлопцаў. Там дзяцей усведамляюць вельмі рана. А ў нас надалей гэтыя справы лічацца сарамлівымі. Бацькі стараюцца пазбягаць адказаў на пытанні дзяцей, у клапатлівых сітуацыях пераходзяць на іншую тэму. А ўжо, не давядзі Божа, каб дазволілі хлопцу з дзяўчынай спакойна пабыць у асобным пакоі...

Я ўжо ў апошні час страціла нервы. У мяне цяпер ёсць хлопец. Цудоўны! Вядома, што не адно ў вочы адзін другому глядзім. Прыйшоў аднаго дня да мяне дахаты. Бацькі дома. Ні кутка, дзе мы маглі б ад іх схавацца. Бачу, што ён аж гарыць. Ды і мне да яго прытуліцца хочацца. А вазьмі ж ды зрабі гэта пры ўсіх.

Ну, пайшлі мы на шпацыр. Па дарозе купілі бутэльку віна. У парку селі на лаўку, памалу цягнем віно з бутэлькі — то ён, то я. А тут ідзе паліцыя. Падышлі: ага, вучні?! Паведамім у школу! Прагналі нас, хаця нічога асаблівага не маглі заўважыць, бо ўжо змяркалася. Праўда, я сядзела ў хлопца на каленях, а што была без трусікаў, дык хутка з яго саскочыла. Ну, і пайшлі мы — самі не ведаючы куды. Хлопец мой быў раздражнены, усё абцалоўваў мяне, не мог адарвацца. Дзе падзецца?

Туляліся мы так, быццам нейкія бадзягі. Нарэшце знайшлі прыстанішча на нейкім чужым панадворку — на скверыку паміж блёкамі. Тут і прыселі на лаўках каля століка, папівалі віно. Было ўжо зусім цёмна, і мы адчувалі сябе свабодна. Асвятляла нас крыху святло з вокан блёкаў, бо фанароў ніякіх на слупах не было.

Мы пачалі кахацца. Саромецца не было каго. Хлопец спусціў штаны, падышоў да мяне ззаду. Было так добра. Раптам мы ўбачылі на сцежцы мужчынскую постаць. Чалавек кашлянуў, даючы нам зразумець, што набліжаецца да нас. Мы нічога не перарывалі, маючы ўжо даволі перарыванняў на гэты дзень. А мо проста не былі ў стане перарваць тыя цудоўныя хвіліны. Чалавек маўкліва прайшоў побач нас, але праз мінут дзесяць прыехаў паліцыйны „radiowóz". Паліцэйскія адразу да нас. Дзякуй Богу, што мы ўжо скончылі. Забралі нас у машыну і паразвозілі па хатах.

Цяпер ні мне, ні яму бацькі не дазваляюць сустракацца. Божа, калі ў нас усё зможа адбывацца нармальна, палюдску?

**Бажэна**

Бажэнка! Хутка! Ідзем жа ў Еўропу. Ужо вось-вось там будзем. Пацарпі!

**Сэрцайка**